# Хто фінансуе беларускую дэмакратыю?

http://navinki.port5.com

НАВІНКІ

10 - 20 сьнежня 2001 №11(49) Кошт свабодны




Еш ананасы,
пі "кальвадос",
Дзень твой апошні
ідзе,
ГРАНТАСОС!

## ВАЙНА & РЫНАК

ДАСЬЕ НА СТАР. 10-11



Беларусь праз 100 гадоў?

на стар.2

## ДВАНАЦЦАЦЬ ПРАЦЭСАРАЎ

У АДНОЙ усходнеэўрапейкай краіне Б. было гэтак шмат дэмакратычных партыяў і няўрадавых установаў, што, здавался, грамадзяне краіны нараджаюцца толькі для таго, каб уступіць у апазыцыйную арганізацыю, выйсьці на вуліцу ды зьвергнуць дыктатара. На самой справе ў краіне Б. дыктатару нічога не пагражала. Палітыкаў выкрадалі, выбары падтасоўвалі, а дэмакраты займаліся тым, што кахалі мільянэра Сораса, які даваў дэмакратам грошы на барацьбу з тыраніяй. Пытаньне, куды дзяваюцца грошы Захаду, хвалявалі толькі лідэра сацыял-дэмакратаў М.Статкевіча ды незалежнага журналіста А.Фядуту. Неяк восеньскім ранкам 2001 яны стварылі надзвычайную камісію па дасьледаваньню лёсу 26 мільёнаў даляраў, якія амэрыканцы далі на выбары Ганчарыка. Ганчарык прайграў, а грошы згінулі нямаведама дзе. Цяпер у засьценках ЧК ён мусіў даць адказ новасьпечаным чэкістам...

Комікс на стар.8-9

## Талібанлэнд: пэрспэктывы тур-бізнэсу

на стар.16

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@czavo.org; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 6.12.2001г., а 00.01. Тыраж 4200 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №979

## Навінкі ў тэстах

### Ці ты ў курсе падзеяў?

**1. Хто такі арыштаваны сп.Алейнікаў?**
a) Вядучы праграмы «Гарадок», які парадыяваў бацьку
b) Былы футбаліст «Дынама» (Мн), які папаўся на допінгу
c) Дырэктар стадыёну «Трактар», якога ўзялі за ўзятку $1000

**2. Чаму сацыял-дэмакраты раскалоліся на прыхільнікаў А. Стакевіча і А.Караля.**
a) Бабу не падзялілі
b) Бо Статкевіч удзельнічаў у выбарах у Палату, а Кароль быў супраць
c) Бо ў сацыл-дэмакратаў грызьціся між собку закладзена на ўзроўні ДНК

**3. Якой кніжкай славуты пісьменьнік-нябожчык В.Астаф'еў?**
a) Эмануэль і яе дзеці
b) Эканомікс для бюджэтнікаў
c) Цар-рыба

**4. Хто атрымаў галоўны прыз шоў «За стеклом» – маскоўскую кватэру?**
a) Макс і Энгельс
b) Чук і Гек
c) Дэн і Жанна

**5. На чым граў бітл Дж.Харысан(+)?**
a) На біржы
b) На сітары
c) На нэрвах Ленана і Ёка Она

**6. Чым закончылася сустрэча У.Пуціна і А.Лукашэнкі?**
a) Пасьцельнай сцэнай
b) Уключэньнем Палестынскай Аўтаноміі ў склад Саюзу Беларусі і Расеі
c) Абяцанкамі інтэгравацца да наступнага саміту

**7. Як адпомсьціў ізраільскі прэм'ер А.Шарон палестынскаму лідэру Я.Арафату пасьля сэрыі тэрактаў у Ерусаліме і Хайфе?**
a) Спаліў яму газэты ў паштовай скрыні
b) Аддаў загад атакаваць штаб-кватэру Арафата ракетамі
c) Даслаў яму па мэйлу вірус «Траян»

**8. Колькі каштуе нафта на ратэрдамскай біржы пасьля таго, як Расея пагадзілася скараціць свой нафтавы экспарт?**
a) Трыста рублёў за стакан
b) 22 даляры за кег
c) Прыкладна 22 даляры за барэль

**9. Якую валюту заменяць новыя грошы Эўра 01.01.2002?**
a) Беларускія зайцы коштам 10 і 15 рублеў
b) Жэтоны з пакемонам Пікачу
c) Усе эўрапейскія валюты

**10. Што такое Тора-Бора?**
a) Новая марка аўтамабіля Форд
b) Раён Афганістану, дзе быў бункер бэн Ладэна
c) Імя новага легіянэра «Спартака» з Бразыліі

**11. Зь якога племені паходзіць новы кіраўнік Афганістану Хамід Карзай?**
a) Пуштуны
b) Заходнія яцьвягі
c) Тартугас

**12. Якая фірма мае намер прыватызаваць «Хімвалакно»?**
a) Кампанія Балтымор – вытворца смачных кетчупаў
b) Расейская кампанія «Итера»
c) «Хопёр-инвест»

**13. Колькі грошай вінны ўрад РБ рабочым заробкаў па стану на 01.01.2001?**
a) 41916,7 мільёнаў рублёў
b) Нічога ня вінны, гэта яму павінны 41916,7 мільёнаў рублёў
c) Тры бутэлькі гарэлкі

**Правільныя адказы:**
1-c, 2-b, 3-c, 4-b, 5-b, 6-c, 7-b, 8-c, 9-c, 10-b, 11-a, 12-b, 13-a.

# Чуб чарнявы, цёмны вусы – тата з мамай беларусы?

Менскі гарвыканкам відавочна незадаволены расавай гігіенай беларусаў. «Пасядзіце пару гадзінаў у любога сталічнага раддому, і вы ўбачыце сярод яго наведнікаў нямала прадстаўнікоў каўкаскіх і азіяцкіх народнасьцяў. Ці можна нам пазьбегнуць расава-этнічнай катастрофы?» – б'е ў набат уплывовы штотыднёвік *Минский курьер*, рупар сталічнай мэрыі. У сваім артыкуле «Кавказ подо мною...» (№29) журналіст Уладзімір Арэхаў мечыць гнеўныя пяруны наконт трагічнага лёсу белай расы ў дэмаграфічнай дынаміцы беларускага насельніцтва. Русавалосыя і канапатыя аўтахтоны чамусьці ня пруцца пладзіцца, і хутка, кажа ён, **«Дар'і прыйдзецца выходзіць замуж за Ахмэта. Ці за Аўтандзіла. (...) І беларуска Янка будзе нараджаць Іванаў і Пятроў, але толькі – каўкаскай наружнасьці».** Разумеем трывогу аўтара. Яму як патэнцыйнаму бацьку адзінаццаці блакітнавокіх карапузаў цяжка глядзець на растучы працэнт курчавых і насатых грамадзянаў РБ. **«І таму да канца стагодзьдзя нашых унукаў і праўнукаў чакае карціна, калі мама ў іх будзе армянка, тата – азэрбайджанец, цёця – іранка, а дзядзя – афганец».**
Як бачым, гарвыканкамаўскі пясьняр у сваім аналізе рэчаіснасьці карыстаецца старой і паважанай мэтадалёгіяй. У 30-я гады амаль тое самае казала славутая Нацыянал-сацыялістычная партыя Нямеччыны (NSDAP), прапаганда якой настойліва запрашала арыйцаў зьвярнуць увагу на дыспрапарцыйны рост габрэйскіх генаў у нацыянальным генафондзе краіны. Даваліся наглядныя параўнальныя графікі жыдоўскага дэмаграфічнага росту і трагічныя прагнозы будучыні германскай расы. Заменім «жыдоў» на «каўказцаў і азіятаў» – і ў артыкуле беларускага журналіста мы ўбачым плягіят. Толькі з нацыянальнай спэцыфікай. Каб не пракісла спэрма славянская, сп. Арэхаў не прапануе пераплаўляць ахмэтаў і аўтандзілаў на дамскія сумачкі. Па ягоных словах, трэба проста матэрыяльна заахвочваць нараджальнасьць, адначасова ўводзячы платную мэдыцыну для тых, хто п'е і паліць тытунь. Сваеасаблівая эўгеніка з чалавечым тварам.
Пахвальна. Але, спадар Паўлаў (менскі мэр), ня слухайце сюсюканьні гэтага блазна! А вы, спадар Арэхаў, адумайцеся! Вы ж самі прарочылі, што каб нарадзіць у нас нават траіх, **«трэба быць альбо цыганкай, альбо веруючай хрысьціянкай, альбо кончанай алькагалічкай»**. Вось і атрымоўваецца, што калі адкінуць шматлікіх этнічна чыстых алькагалічак, якія з-за вас будуць башляць направа і налева, і рэлігійных фанатыкаў (якіх у Беларусі па статыстыцы як кот наплакаў) сваёй бязглуздай прапановай вы ўласна стымулюеце якраз тых, наплыву каго гэтак баіцеся. Гляньце праўдзе ў вочы: адзіны сродак пазьбегнуць **«этнічна-расавай катастрофы»** без дыскрымінацыі, дэпартацыяў, стэрылізацыі і фізычнага зьнішчэньня генэтычных іншародцаў – гэта ўвесьці закон, які б, наадварот, дазваляў савакупленьні выключна ў нецьверозым стане ды ў асьвечаных бацюшкам (ксяндзом, пастырам...) месцах. Гэта адштурхне мусульманаў, а нашы пладавітыя булдосы і хрысьціянкі, хрысьціяне і алькагалічкі ўрэшце паперажэняцца паміж сабой і нарадзяць мільёны такіх жа беленькіх-беленькіх, русенькіх-русенькіх і галоўнае – расава чысьценькіх беларусікаў ●

**Рэд'ярд Кіплінг**




***Відаць, гэтак уяўляе сабе журналіст У.Арэхаў «этнічна-расавую катастрофу» беларускага народу. І хутка наша краіна зь Сінявокай ператворыцца ў Каравокую.***

## АПОШНІ ГЕРОЙ у Курапатах




Рэальная эпапея змаганьня трывае ва ўрочышчы Курапаты. Хто пераможа?

Пакуль аматары навамодных расейскіх тэлевізійных шоў «За стеклом» або «Последний герой» зыраць свой яшчык, ва ўрочышчы Курапаты пад Менскам ужо каторы месяц працягваецца сапраўдная рэалістычная эпапея супрацьстаяньня ўлады й грамадзянскіх ініцыятываў. Нагадаем, што прычынай канфлікту паслужыла рашэньне ўладаў пашырыць палатно Менскай кальцавой дарогі закошт Курапацкага лесу, які зьяўляецца мэмарыялам ахвяраў сталінскага генацыду.
Падзеі, што разгортваюцца штодня ў Курапатах, не саступаюць любому г.зв. «рэалістычнаму» шоў: дзясяткі тэле- і відэакамэраў, натоўпы апазыцыйных дзеячоў, якія не губляюць лішні раз трапіць у камэру, каб падтрымаць свой імідж «крутых герояў змаганьня з дыктатурай» і г.д. Аднак сапраўдныя жарсьці адбываюцца ў імправізаваным палатачным лягеры, насельнікі якога пастаўленыя ў жорсткія ўмовы школы выжываньня. У адрозьненьні ад тартугасаў і лагартасаў, якія песьцяцца ў промнях трапічнага сонца на амаль райскім востраве, нашы «апошнія героі» пры 10-градусных маразах сьпяць у палатках і вядуць няроўнае спаборніцтва з плямёнамі АМАПу і дарожных рабочых. Чым скончыцца гэтае спаборніцтва, хто нарэшце атрымае менскую прапіску, а хто ўтульную камэру – пакажа час ●

## КрымінАл

### Мачыць у сарціры?

**Нягледзячы на фактычнае заканчэньне ваеннай кампаніі ЗША ў Афганістане, да нашае старонкі час ад часу яшчэ дакатваецца гул міжнароднага канфлікту. Гісторыя вакол таямнічага «белага парашку», які там-сям узьнікае то ў паштовых канвэртах ад дабразычліўцаў, то ў аэрапортах, не дае спаць сумленным грамадзянам. Аднак спэцслужбы Беларусі заўсёды напагатове. Вось і цяпер беларускім рыцарам плашча і кінжала ўдалося прадухіліць чарговую правакацыю талібаў. Днямі ў будынку Віцебскага аблвыканкаму і ў шэрагу іншых дзяржаўных установаў гораду на Дзьвіне затрымалі групу жанчын, якія раскідвалі ў ведамасных туалетах падазроны едкі белы парашок. Спэцслужбам пакуль што не ўдалося выявіць сувязь жанчын-камікадзэ, якія называлі сябе «прыбіральшчыцамі», зь міжнароднымі тэрарыстамі бэн Ладэна. Па факце ўзбуджаная крымінальная спарава.**




## *Мясьніковіч – акадэмік. Канаплёва – у мітрапаліты!*

Навіна пра назначэньне М.Мясьніковіча прэзыдэнтам Акадэміі Навук РБ, якая пазабавіла грамадзкасьць яшчэ напачатку лістапада, працягвае ўпэўнена займаць верхнія радкі топ-дзясяткі ў курылках працаўнікоў навукі. Першы прэзыдэнт Лукашэнка аказаўся першым і ў гэтым пачынаньні: нават І.Сталіну не прыйшло ў галаву ПРЫЗНАЧАЦЬ кіраўнікоў АН, якія заўсёды абіраліся адкрытым галасаваньнем (хай сабе й фармальна) на Прэзыдыюме АН. Такім чынам, яшчэ адно апірышча хаосу й дэмакратыі было ўпісанае ў стройную структуру прэзыдэнцкай вэртыкалі. Чарговым крокам прэзыдэнта варта чакаць прызначэньне Канаплёва на пасаду кіраўніка Беларускай праваслаўнай царквы (замест лайдака-Філарэта) ці прыступленьне Ўрала Латыпава да выкананьня абавязкаў надзвычайнага й паўнамоцнага пасла ЗША ў Беларусі (як добрая альтэрнатыва інтрыгану-Козаку) ●

## Калядны па-амэрыканску

### Елка на костках

«Каб гэта зразумець, трэба быць амэрыканцам», – гэтак сказала адна мая знаёмая, даведаўшыся пра чарговы прыкол Джорджа Буша-малога. Усім вядома, што на калядныя сьвяты звычайна ставяць елку, упрыгожаную ўсялякімі шарыкамі, хлапушкамі, гірляндамі ды іншай фігнёй. Узгадалі? Дык вось, адміністрацыя прэзыдэнта ЗША й мэрыя Нью-Ёрку таксама вырашыла паставіць елку. Але ня дзе-небудзь у закуточку Белага Дому, а на месцы нядаўняга тэракту 11.09, на руінах былога Гандлёвага цэнтру. «Гэта ж кашчунства!» – зверашчалі б прыхільнікі якой-небудзь Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі ЗША (калі б такая была). – «Гэта ж трэба, на людзкіх касьцях навагоднія карагоды вадзіць!» Аднак не! На дзіва, ніхто не заенчыў і нават не залупіўся на гэты конт. Аказваецца, паводле афіцыйнай вэрсіі Вашынгтону, елка мусіць нібыта сымбалізаваць «няскоранасьць і непераможнасьць духу амэрыканскага народу». Маўляў, хай ведаюць басурманы, што суайчыньнікаў Бруса Ўіліса ня возьмеш нейкім там, факін, «боінгам».



Якім чынам гэтая модная амэрыканская фішка адаб'ецца на айчыннай дэмакратычнай апазыцыі, прадказаць вельмі цяжка. Аднак, як заўсёды, варта чакаць перагібаў на месцах, напрыклад, сустрэча Новага году на могілках або зьезд БНФ у моргу.

І ўсё ж цікава, ці будуць усталёўваць у Курапатах навагоднюю елку прыхільнікі КХП-БНФ, чый лідэр Зянон Пазьняк, як вядома, мае сэнтымэнт да кансэрватыўнага рэспубліканца Джорджа Буша.

# Coca-Cola для талібаў

Прывід бактэрыялягічнай вайны не дае самкнуць вачэй кожнаму шараговаму прадстаўніку заходняй цывілізацыі. Ананімкі зь сібірскай язвай або яшчэ якой халерай завалілі паштовыя офісы ад Вашынгтону да самых да акраінаў хрысьціянскага сьвету. «Уявіць немагчыма, гэтыя мусульманскія барбары хочуць перазаразіць нас усіх сьвінкамі і грыпамі», – сакрушаюцца СМІ. Ня будзем лішні раз распрагацца, што гэтыя сьмяртэльныя бацылы – вынік працы далёка не талібскіх герастратаў. Зьвернем лепш пільную ўвагу чытача на іншы аспэкт гэтай бактэрыялягічнай вайны. Ад самага пачатку амэрыканскіх бамбардзіровак Афганістану разам са сьмертаносным грузам трацілу добрыя дудль-янкі пачалі сапраўдную бамбардзіроўку афганскіх кішлакоў г.зв. «гуманітарнай дапамогай ад амэрыканскага народу». Цюкі з гуманітаркай да верху напханыя паношанай джынсой часоў сэксуальнай рэвалюцыі, амэрыканскімі «ралтонамі» ды кока-колай. Аднак ніхто не паклапаціўся патлумачыць галодным афганскім абарыгенам, як гэта ўжываць у ежу. У выніку, статыстыка ўжо зафіксавала некалькі дзясяткаў сьмяротных выпадкаў з-за атручэньня заморскімі прадуктамі.

Ня трэба думаць, што ісламскія дзікуны па старой звычцы блытаюць кока-колу з какаінам ды факаюць яе да атупленьня ці ганяюць па венах. Проста, пуштуны кідаюць увесь гэты хаўчык «ад дзядзькі Сэма» з кетчупамі й бульбай-фры ў адзін кацёл, а потым налопаўшыся адкідаюць канькі. Сьмешна? Наўрад ці. Ні для каго не сакрэт, што заходняя харчовая прамысловасьць даўно ўжо практыкуецца на сваіх пражэрлівых грамадзянах, дадаючы ў прадукты розныя хімікаты і сынтэтычныя рэчывы, ня кажучы ўжо пра экспэрымэнты з генэтычнымі тэхналёгіямі і кланіраваньнем буйной рагатай скаціны. Адпаведна, амэрыканскія ці эўрапейскія харчы, не зважаючы на іхную рэклямную «якасьць» і «карыснасьць», даўно ўжо ня маюць нічога агульнага з натур-прадуктам. А цяпер уявіце сабе страўнікі бедных дзяцей гор, якія мелі неасьцярожнасьць заглынуць які-небудзь «стымарал» ці сербануць «кока-колы».

Дык што ж гэта за «гуманітарная дапамога»? Мы маем справу з выпадкам выпрабаваньня Захадам новага кшталту зброі – гастранамічнай. Гэткую г.зв. «гуманітарку» сьмела можна параўнаць да той самай «бактэрыялягічнай зброі», калі ўзяць пад увагу наступны статыстычны факт: ад славутай «сібірскай язвы» сканала ў некалькі разоў менш непавіннага народу, чым ад амэрыканскай дабрадзейнасьці ●

**Зьбігнеў Бжэзінскі**

***Унізе:*** *Гуманітарная дапамога пагражае жыцьцю чалавека ня менш за бомбу. Вядомыя выпадкі, што груз проста забіваў людзей.*




# Чарнобыль па-смаленску




**Урад Рэспублікі Беларусь разрадзіўся ідэяй пабудаваць пры Смаленскай АЭС (САЭС) беларускі рэактар. Навіна разьвяла цэх працаўнікоў другой самай старажытнай прафэсіі па варожых фракцыях. Гэтак, газэта *Наша Ніва* падтрымала ядзерны праект прэм'ера Навіцкага зь пенай на вуснах.**

**Па-першае, згодна *НН* мы забясьпечым сябе энэргіяй па самыя памідоры, а за ўсе нэгатыўныя наступствы эксплюатацыі рэактару будуць расхлёбвацца расейцы, прынамсі жыхары Смаленскай вобласьці. Па-другое, смаленскія беларусы, пабачыўшы родны рэактар, пранікнуцца павагай да гістарычнага фатэрлянду, адчыбучаць сэпаратысцкі мяцеж і ламануцца прасіцца ў склад Беларусі. РБ, дзякуючы рэактару, прырасьце яшчэ адной вобласьцю. Слушна! Ёсьць яшчэ трэці аспэкт, які геапалітыкі *НН* чамусьці апусьцілі. Мы ня толькі разжывемся вобласьцю, але й заадно пакончым з чарнобыльскай праблемай.**

**Паколькі смаленскія беларусы зьяўляюцца жыхарамі Смаленшчыны, насельніцтва якой адпаведна *НН* павінна несьці на сваіх плячах калізіі ядзернай энэргетыкі, мы прыяднаем ня проста суайчыньнікаў, а цэлую кодлу хворых на генную мутацыю, рак і лейкемію. На фоне такой вялікай колькасьці пацыентаў анкалёгіі з Смаленску пра чарнобыльцаў адразу забудуцца. Ня той маштаб. *НН* мае рацыю: беларускі рэактар на САЭС – гэта комплекснае рашэньне ўсіх праблемаў! ●**

# Бананавая Рэспубліка

## *Чаму вучаць беларусаў у Празе?*

Агульнавядома, што галоўнай расьлінай Беларусі зьяўляецца бульба. Адсюль і мянушка беларусаў — бульбашы. Аднак у будучым грамадзянаў РБ будуць клікаць па-іншаму. Рыхтуйцеся да таго, што хутка за мяжой вас пачнуць дражніць бананшчыкамі або какосьнікамі. Усё таму, што замест бульбы хутка ў кожным двары будзе расьці ліяна.

Экзатычнай флёрай мы будзем абавязаныя былой актывістцы «Маладога фронту» Натальлі Маковік. Пару гадоў таму амазонка эміґравала ў Чэхію, дзе між іншым прабіла нейкі грант для маладых беларускіх эміґрантаў. Па ўмовах гранту кожны малады адмарозак, якога дастаў рэжым вусатага, можа эміґраваць, паступіць на халяўныя курсы чэскай мовы і яшчэ праз год здаць спэцыяльны іспыт на паступленьне ў Карлаў Унівэрсытэт. Іспыт праходзіць у форме тэсту, сутнасьць якога ў наступным: чым болей балаў набіраеш, тым болей шанцаў маеш паступіць на прэстыжны факультэт кшталту факультэту мэнэджмэнту або інфарматыкі.

Але па іроніі лёсу ніводны з нашых суайчыньнікаў на такія крутыя факультэты яшчэ ніколі ня быў залічаны. Усім эміґрантам хапіла балаў акурат, каб прайсьці на самы забіты факультэт «Трапічнае земляробства». Калі браць дынаміку росту палітычнай эміґрацыі, то пасьля краху Лукашэнкі спэцыялістаў у галіне трапічнага земляробства ў нас будзе як бруду. Паколькі веды трэба кудысьці прымяніць, яны зоймуцца маштабнымі рэформамі ў сельскай гаспадарцы. Так што апэльсінаў хутка наямося — да бляваты! ●



**Гальляш Глыбоўскі**

# *Кенгуру ў менскім Палацы прафсаюзаў*

Паглядзіце ўважліва на рэклямны плякат выставы кенгуру, якая праходзіць у Палацы Прафсаюзаў. Выставу кенгуру наведала ўжо ўдвая больш гледачоў, чым прагаласавала на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах за адзінага кандыдата ад апазыцыі. Падумайце, у чым прычына гэтага цікавага факту.

Варыянты адказаў:

1) Кенгуру значна маладзейшыя і прыгажэйшыя за У.Ганчарыка.

2) Фішка з зубрамі не спрацавала адназначна. Але замежныя соцыятэхнолягі даўно ўжо распрацавалі абсалютна выйгрышны брэнд, які апраўдаў сябе на пазамінулых выбарах у мясцовыя органы ўлады Аўстраліі. Адмарожаная моладзь з групоўкі «Кенгуру нацыянальнага вызваленьня», у касьцюм якіх абавязкова павінна была ўваходзіць вялікая сумка на жываце, дзе яны насілі экскрэмэнты вамбатаў, каб закідваць імі паліцыянтаў, дапамагла абарыгенскай апазыцыі скінуць мэльнбурнскага мэра Малькольма Кука і паставіць на ягоную пасаду абарыгена Бэнжамэна Гара-Гару. Такім чынам, кенгуру трэба ўнядрыць і акліматызаваць у беларускую прыроду, каб заваяваць сымпатыі як мага большай колькасьці насельніцтва ўсіх узроставых груп нашай краіны і зрабіцца сапраўдным нацыянальным сымбалем.

3) Аўтарытэт эўрапейскіх кароваў, якія хварэюць на шаленства і вуглік, імкліва заняпаў. Захад сутыкнуўся з дэфіцытам ялавічны, а аўстралійскія кумпячкі з кенгурацінына за мілую душу ідуць на селькасгаспадарчых рынках Эўропы. Таму кенгуру на сёньня пераўзышлі ў папулярнасьці нават вустрыцаў і саранчу.

4) Людзям надакучылі брыдкія вавёркі і зайцы-мутанты зь лясоў Чэрыкаўскага раёну, а гэтае экзатычнае шоў дапамагае расслабіцца публіцы пасьля выбараў.




5) Вузкае кола сяброў *Нашай Нівы* нічога ня ведае пра кенгуру, бо адзіная кніжка па заалёгіі, якую яны прачыталі – гэта *Зьвяры-суайчыньнікі* Сяргея Харэўскага, дзе пра кенгуру анічога не напісана.

6) Кенгуру вельмі забаўна перабірае пярэднімі лапкамі, жуе лістоту і высока падскоквае, калі бачыць сваіх маленькіх сябручкоў. Ганчарыку, безумоўна, так скакаць падчас выбарчай кампаніі не дазваляў стан здароўя і слабая фізычная падрыхтоўка.

Аналіз пі-ару паказаў, што на наступных выбарах пераможа кандыдат зь вялікім хвастом, маленькімі ручкамі, які моцна стаіць на нагах, можа высока скакаць з адной палітычнай платформы на другую, а галоўнае – зь вялікай сумкай на жываце, поўнай аўстралійскіх даляраў і маленькіх сяброў з маладзёвай фракцыі «Кенгуру» ●

## Бактэрыялягічная зброя:

# Купляйце беларускае!

Як адаб'ецца глябальны эканамічны крызыс на народнай гаспадарцы Беларусі? Мясцовыя «аналітыкі» прадракаюць, што анальная адтуліна рэцэсіі, у якую залез сусьветны бізнэс, стане й нашай «рынкавай нішай». Прыйшоў час, кажуць яны, пяяць пахавальную калыханку лукашэнкаўскім летуценьням наконт хуткай і абільнай эякуляцыі айчынным экспартам ў ненасытную вагіну заходняга маркету. Аднак ня трэба верыць гэным шарлатанам, што прызвычаіліся гадаць на біржавых індэксах з дакладнасьцю, блізкай да тыднёвых гараскопаў БДГ і гадавых прагнозаў МВФ. Гора-эканамісты чамусьці выпускаюць з поля свайго зроку амэрыкана-талібскі армагедон, што ўжо месяц як казыча гіпофіз сумуючага буржуа паўсюль, дзе ёсьць тэлебачаньне і пошта. І дарма, бо, як трапна падмечана клясыкамі марксізму, у капіталістычнай сыстэме няма лепшай клізмы ад чарговага крызысу як прыгожая і крывавая вайна (гл. дадатак). Нэйтральная і малапрыкметная Беларусь можа салідна падшабашыць на абслугоўваньні ваюючых бакоў, як гэта некалі зрабіла ціхая Швайцарыя, што вялікадушна прымала да сябе заможных уцекачоў ад фашызму, паралельна пераплаўляючы ў якасныя залатыя зьліткі зубныя каронкі іх менш растаропных сяброў – пітомцаў нацысцкіх лягераў сьмерці. Наша міралюбная Бацькаўшчына падымецца ня горш, калі гэтаксама ўдала выкарыстае ўнікальную камбінацыю спэцыфікі свайго геапалітычнага становішча і асаблівасьцяў нацыянальнай эканомікі.

Рэцэпт просты. Сэрца гаспадаркі Сінявокай – ваенна-прамысловы комплекс (ВПК). Ужо сёньня ўваходзячы ў дзесятку буйнейшых экпарцёраў узбраеньняў, а ў «чорным» гандлі сьмерцяноснымі прыстасаваньнямі амаль не адстаючы ад Расеі, ЗША, Францыі і Кітаю, краіна-партызанка абслугоўвае добры кавалак Трэцяга Сьвету. Албанскія сэпаратысты, камандас ангольскай UNITA, Садам Хусэйн і іншыя чэгевары паўднёвых султанатаў добра ведаюць і любяць танна-якасныя беларускія валыны (людзі кажуць, што чачэнскія маджахеды таксама ласыя да made in Belarus). Такім чынам, у кантэксьце афганскай вайнушкі беларускія абароншчыкі маюць вельмі карысны досьвед абслугоўваньня падобных ёй «асымэтрычных канфліктаў» (гл. *Навінкі* №10, 2001). Нашай прамысловасьці трэба толькі прыстасавацца да сёньняшніх рынкавых умоваў, якія падказваюць, што найбольшым попытам сярод асаджаных талібаў у бліжэйшыя месяцы будзе карыстацца менавіта біялягічная зброя.



«Сібірская язва не пагражае чалавеку» – сьведчаць амэрыканскія малпы.

Калі Беларусь ня хоча ўпусьціць свой рынкавы шанец, то ёй тэрмінова трэба правесьці рэканвэрсію сваёй прамысловасьці для масавага выпуску бія-ўзбраеньняў. І тады 9 мая 2002 году патрыятычны вайсковы парад на плошчы Незалежнасьці ўпрыгожаць не дапатопныя танкі Т-72 ці груваскія сыстэмы ракетаў «БелГрад», а сапраўдны гонар айчыннай «абаронкі» – калёны баявых пацукоў (пажадана пры пагонах і аксэльбантах), стройныя фалянгі кансэрваваных грыбкоў-кілераў і пладавітых гнідаў, ваяўнічыя цыстэрны вірусаў і крылатыя капсулы бязьлітасных бацылаў. У супрацівагазе і пэрламутравым камбінэзоне, з трыбуны іх будзе вітаць сам Прэзыдэнт, а тым часам недзе далёка-далёка барадатыя дзядзькі будуць разглядаць ілюстраваны каталёг-буклет беларускай прадукцыі ●

**Міхал Боткін**

# Амністыі ня будзе

## *Прыватызацыя пачынаецца з «зоны»*

**Уявіце сабе надпіс на Валадарцы «Прыватная маёмасьць». Не, гэта не ідыёцкі жарт. Нядаўна Канстытуцыйны суд РБ вызнаў, што ідэя недзяржаўных турмаў не супярэчыць асновам заканадаўства краіны і прапанаваў у якасьці экспэрымэнту пабудаваць прыватны інтэрнат для непаўналетніх злачынцаў.**

Ідэя зонаў, дзе верхаводзіць не дзяржаўны вертухай, а бізнэсмэн і закон максымізацыі прыбытку – ня новая. За акіянам прыватныя турмы ўзьніклі яшчэ ў сярэдзіне 18 стагодзьдзя. З-за дэфіцыту бюджэту ўлады некалькіх штатаў заключылі кантракты з прадпрымальнікамі. Дамова звычайна прадугледжвала, што фірма X бярэ на свой паёк усіх вязьняў турмы і забясьпечвае ахову. За гэта ёй надаваліся правы выкарыстоўваць працоўную сілу зэкаў і прадастаўляць ім платныя паслугі. Ня ведаю як зараз, а ў той час умовы эксплюатацыі зэкаў былі настолькі гуманныя, што мала хто зь іх атрымліваў даведку аб вызваленьні. Напачатку 20 стагодзьдзя пад публічным ціскам урад адмовіўся ад ідэі прыватызаваных турмаў.

Калі ў 1980 годзе да ўлады ў ЗША прыйшоў Рональд Рэйган, мысьля пра прыватызацыю зонаў зноў пасялілася ў мазгах палітыкаў і бізнэсмэнаў. Галоўным імпэратывам разьдзяржаўленьня стала філязофія «вольнага рынку». Лічылася, што крытэрам эфэктыўнасьці любога грамадзкага інстытуту зьяўляюцца прыбытак і рэнтабэльнасьць. У выніку ў ЗША прыватызавалі ўсе сацыяльныя службы за выключэньнем хіба што пажарных. Нарэшце зьявіліся аматары прыватызацыі астрогаў, якія кляліся, што на зэках таксама можна рубіць нармалёвую капусту.

Прапановы прыватызатараў упалі на ўгноеную глебу. Ужо ў тыя гады ЗША былі сусьветным лідэрам па колькасьці вязьняў на тысячу грамадзян. Пры Рэйгане за кратамі сядзела каля 1 200 000 амэрыканцаў. Самае цікавае, што з 1975 па 1985 колькасьць цяжкіх злачынстваў у ЗША ўзрасла толькі на 1,42% у той час, як у турмах стала цясьней роўна напалову. Справа ў тым, што ўлады пачалі праводзіць палітыку «zero tolerance» – ніякай цярпімасьці (гл. *Навінкі* N8, 2001). Сэнс курсу палягаў у тым, каб жорстка караць за любы, нават самы нязначны праступак. У выніку колькасьць насельнікаў вязьніцаў у ЗША пайшла ўгару. Прапарцыйна расьлі дзяржаўныя расходы на падтрымку амэрыканскага архіпэляга ГУЛАГ. Гэтак, у Каліфорніі за 80-ыя гады бюджэтныя асыгнаваньні на турмы павялічыліся ў 7 разоў. Аднак, грошай усё роўна не хапала, і ўрад, які сам стварыў сабе праблему, зноў зьвярнуўся па дапамогу да прыватнага сэктару. Першы кантракт на арэнду турмы быў заключаны з кампаніяй ССА у 1984 у Кентукі. Праз дзесяць гадоў у ЗША ўжо існаваў сапраўдны «турэмна-вытворчы комплекс». Ёсьць нават свае перадавікі – фірмы ССА і Wackenhut, якія кантралююць больш за 30% кантрактаў. З уваходам у эксплюатацыю першай прыватнай зоны мінула амаль 15 гадоў. Можна падвесьці пэўныя вынікі. Калі наведацца на сайты ССА і Wackenhut, спачатку здаецца, што памыліўся і зайшоў на старонку турфірмы. Апісаны быт турмы нагадвае санаторый. Грамадзтва быццам бы таксама не пакрыўджанае. Нават працаўнікі прыватных турмаў вызнаюць, што такія зоны каштуюць падаткаплацельшчыку на 5-15% менш за дзяржаўныя. Такім чынам, усе кропкі можна лічыць расстаўленымі. Прыйшоў час прыватызаваць беларускія зоны і спаць спакойна. Вядома ж, сучасныя турмы – інкубатар злачынцаў!

Аднак не сьпяшайцеся адпраўляцца ўначы гуляць з падругай у вясёлыя раёны кшталту Шабаноў або Чыжоўкі. Эфэктыўнасьць пакараньня вызначаецца ня ў тым, каб таньней пабудаваць турму або абставіць яе не драўлянымі, а плястыкавымі нарамі (пластык, як вядома, таньней). Сэнс турмы, калі яшчэ не забыліся судзьдзі Канстытуцыйнага суда, у рэабілітацыі злачынцаў. Інакш кажучы, садзяць для таго, каб з-за кратаў выходзілі людзі, ня схільныя да рэцыдываў былых злачынстваў. А тут існуе некаторая недарэчнасьць. Скарачэньне колькасьці злачынцаў значыць для ўладальнікаў прыватных турмаў скарачэньне кліентаў і, як сьледзтва, банкруцтва. Інтарэсы кампаніяў кшталту ССА палягаюць у тым, каб у грамадзтве заўсёды было каго пасадзіць. Злачынцы для іх — толькі патэнцыйныя кліенты іхных установаў. Дзе такога кліента ўзяць, калі ніхто ня будзе гвалтаваць, красьці й забіваць? Ня будзеш жа даваць рэкляму на Радыё Бі-Эй: «Да ўвагі блатных. ААТ «Аршанская зона» абвяшчае калядныя скідкі. Цяпер у нашых зонах замовіць прадукт з волі каштуе на 15% таньней, чым раней. Не марнуйце часу! Хутчэй забівайце і адпраўляецеся на нары!» Пагадзіцеся, такая рэкляма гучыць неяк дзікавата. Не журыцеся! Уладальнікі ССА і Wackenhut знайшлі рэцэпт, як не згубіць кліентуру. У кангрэсе штату існуе «турэмнае лобі». Купленыя дэпутаты, маніпулюючы мяшчанскім жахам перад пагрозай злачыннасьці, ставяць на галасаваньне ўсё больш жорсткія законы. Напрыклад, свой першы кантракт ССА прабіла з дапамогай Х.Гранта – аднаго зь лідэраў рэспубліканцаў. Так што забудзьцеся пра «мяккі крымінальны кодэкс», штрафы і папярэджаньні. У пэрспэктыве, як у сёньняшніх ЗША, можна будзе загрымець на нары нават за расьпіваньне піва на публіцы. І ня будзе аніякіх амністыяў! Адкуль жа прадпрымальніку грошы браць, калі ўсе кліенты па амністыі павыходзяць?

А ўвогуле, суайчыньнікі, трэба глядзець на праблему шырэй. Як пісаў Мішэль Фуко: «Турма стала падмуркам буржуазнага ладу. Тут былі выпрацаваныя формы выхаваньня, якія потым былі спраектаваныя на грамадзтва». Магчыма, прыватызаваны інтэрнат для падлеткаў – ня проста «малалетка». Магчыма, Канстытуцыйны суд сваёй пастановай адклаў лічынку новага беларускага грамадзтва, пабудаванага на «справядлівым» рынкавым прынцыпе. Перафразуючы клясыка, прыватная турма – вось будучы сымбаль твой, забыты краю родны! ●

**Мікола Піцерскі**

*Бел. Літ.*

## Бэн Ладэн чытае Эдуарда Скобелева

Існуе шкодны забабон, што біялягічная зброя – быццам бы «новы» і «сорамны» сродак вядзеньня вайны ў адрозьненьне ад «традыцыйных» і «высакародных» зэнітных установак, супраць-пяхотных мін і іншых вагнястрэльных тамагаўкаў. На самой справе, наўмыснае паражэньне ворага разнастайнымі хваробамі і інфэкцыямі мае багатую гісторыю..Яшчэ ў XIV стагодзьдзі па ўсёй Эўропе рэгулярна выкарыстоўваліся катапульты, пры дапамозе якіх у варожыя станы гераічныя рыцары шпурлялі хворых на чуму суайчыньнікаў і каўшы з экскрэментамі халерных (дзіўна, чаму айчынныя рыцарскія клюбы дагэтуль не паспрабавалі рэканструяваць у сваіх шоў гэты пласт ваенных традыцыяў Сярэднявечча?). Пусьціў глыбокія карані бія-тэрор і ў мастацкай культуры.

Не выключэньне культурная спадчына беларусаў. Напрыклад, у старадаўніх былінах узгадваецца нехта Вольх Усяслававіч, правобразам якому паслужыў полацкі князь Усяслаў Чарадзей, сёньня больш вядомы як марка элітнай гарэлкі. Адна з былінаў глаголіць, што ў сярэднявеччы беларусы мелі дастатковыя запасы біялягічнай зброі, каб зьнішчыць цэлы горад. Гэтак, той Вольх пры асадзе сталіцы «царства Індзейскага» выкарыстоўваў «мурашоў» (!), якія пасьля пранікненьня за муры ператвараліся ў дружыну ваяроў (!!!) і «рубілі там старова і малова». А вось сучасны прыклад – дзіцячая беларуская літаратура. Варта ўзгадаць хрэстаматыйнага Чыха – героя «Прыгодаў Арбузіка і Бябешкі» пяра Эдуарда Скобелева. Гэты пэрсанаж – паэтычная алегорыя на вострую рэспіраторна-вірусную інфэкцыю (грып), якая пад кіраўніцтвам галоўных герояў косіць злых зялёнахвостых (у залежнасьці ад палітычнай кан'юнктуры, зялёныя амфібіі могуць служыць алюзіяй як на амэрыканскіх імпэрыялістаў, гэтак і на афганскіх талібаў-ісламістаў) лепей за сібірскую язву, бубонную чуму і сьвінку разам узятыя. Дарэчы, сама назва вірусу, які сымбалізуе сабой Чых – менавіта ўсходне-славянскага паходжаньня: «грып» ёсьць дэфармаваны іншаземцамі «хрып», які нашыя продкі запусьцілі заходнікам у XVIII ст.

Як бачым, беларусам няма сэнсу саромецца цудоўнай зброі, якую многія стагодзьдзі шанавалі іхныя продкі і ўсьпявалі ямбам і харэем лепшыя златавусты Айчыны. Між тым, глябальнае «вагнястрэльнае лобі» навязвае нам ступень «карэктнасьці» таго ці іншага інструмэнта забойства, якая адпавядае інтарэсам імпэрыялістычных ваенных стратэгіяў. І калі лётчыкі-камікадзы і сібірская язва ў канвэрце бесяць сусьветны істэблішмент, дык гэта таму, што яны парушаюць усталяваныя апошнім стандарты «правільнай» вайны, за межамі якіх пераможца зноў перастае быць прадказальным. А значыць, гісторыя працягваецца.

# Грошы бяры, а свой розум май!

**7** лістапада амэрыканскі сэнатар-рэспубліканец Джэсі Хэлмс (вядомы тарашкаведам з *Нашай Нівы* як Джэсы Гелмз) прапанаваў Сэнату ЗША прыняць «Акт аб спрыяньні дэмакратыі ў Беларусі-2001». Калі большасьць сэнатараў скажа «Yes», беларуская апазыцыя падымецца на 30 мільёнаў даляраў.

Сытуацыя з Джэсі Хэлмсам ня можа не выклікаць гістарычных паралеляў. Як вядома, Уладзімір Ільіч браў грошы ў кайзэра Вільгельма II, каб падгрызьці падмуркі часовага ўраду. Беларуская апазыцыя таксама цягне грошы з адміністрацыі ЗША, каб адправіць да прабацькоў бацьку Лукашэнку. Ці значыць гэта, што Вячорка, Домаш і нават Пазьняк – камунякі, па якіх рыдаюць ліхтарныя слупы? Сьпяшым суцешыць дэмакратаў, чыё рэнамэ прыхільнікаў рынку і правоў асобы знаходзіцца пад пагрозай. Розьніца паміж бальшавікамі і дэмакратамі прынцыповая: Ленін браў кайзэраўскія рэйхсмаркі, ведаючы, хто такі кайзэр і чаму ён дае РСДРП(б) грошы. Вільгельм II Гагенцолерн пры ўсіх раскладах заставаўся для бальшавікоў мудзілам-імпэрыялістам. Ленінцы разумелі, што кайзэр фінансуе рэвалюцыянэраў не таму, што абчытаўся Маркса, а з-за шкурнай мэтай аслабіць тыл расейкай арміі і заграбастаць у цара паболей тэрыторыі. Аднак Вільгельм недаацаніў конгеніяльны мозг Ільіча. Бальшавікі кайзэраўскія грошы ўзялі, а потым фрыца кінулі.

Беларуская апазыцыя пайшла іншым шляхам. Для яе васьмідзесяцігадовы Хэлмс – гэта шчыры дабрадзей і філянтроп. Ён башляе баксы нашым дэмакратам проста так, бо «ня хоча сысьці, не падтрымаўшы беларускай незалежнасьці» (*Наша Ніва*). Шчас! Чаму неўтальмавальны сэнатар ня хоча сысьці, не падтрымаўшы курдзкай або басконскай незалежнасьці? Адказ на пытаньне глядзі ў першым пункце згаданага законапраекту: **«Беларусь зьяўляецца зонай жыцьцёвых інтарэсаў ЗША»**. Іншых парываў падтрымліваць Беларусь у Джэсі Хэлмса проста быць ня можа. Але хто такі Джэсі Хэлмс, якому газэта *Рабочы* прысвоіў тытул «жалезны»? Хто ж гэты аятола дэмакратычнага джыхаду, хросны бацька «беларускага лобі» ў амэрыканскім Сэнаце? Пасьля праведзенага намі расьсьледаваньня аказалася, што сэнатар ад Паўночнай Караліны рэспубліканец Джэсі Хэлмс – надзвычай выбітны пэрсанаж на палітычнай сцэне Злучаных Штатаў.

## Выкапень Халоднай вайны

**«Беларусь – гэта Куба ў цэнтры Эўропы!»** – усклікнуў змагар за нашу дэмакратыю. Атаесамленьне Беларусі зь непаслухмяным карыбскім курортам палягае на сьцьвярджэньні «жалезнага Джэсі», што беларускі рэжым ёсьць **«брутальным вяртаньнем у савецкую эру»**. А супраць «камуністаў» для Хэлмса добрыя ўсе сродкі. З гэтае прычыны дасёньня пры ўзгадваньні ягонага імя кроў усіх лацінаамэрыканскіх праваабаронцаў стыне ў жылах ад вантробнага жаху і абурэньня. Той самы Хэлмс, што зараз патрабуе ад Лукашэнкі **«спыненьня перасьледу апазыцыі і вызваленьня палітвязьняў»**, у 80-я гады ў імя вайны супраць чырвонага д'ябла быў абаронцам №1 фашыстоўскіх дыктатараў кшталту Аўгуста Піначэта ў Чылі, Рауля Сэндраса ў Гаіці і Рабэрта Д'Обуісона ў Сальвадоры. Калі аднойчы журналісты з паўночна-каралінскай *The New Observer* узгадалі яму аб стварэньні ягоным сальвадорскім корышам «эскадронаў сьмерці», якія забіваюць тысячы мірных жыхароў, прабеларускі гуманіст ляпнуў: **«Ёсьць рэчы, важнейшыя за чалавечае жыцьцё. Галоўнае, што Д'Обуісон – рыначнік і глыбока веруючы чалавек»**. Акрамя таго, што Джэсі «ўсё жыцьцё падтрымліваў вызвольную барацьбу краінаў Цэнтральнай Эўропы» (*Наша Ніва*, №46), у «камуністычным» Нікарагуа ён «падтрымліваў вызвольную барацьбу» карнікаў «контрас». Гэйл Фэйрс з праваабарончай арганізацыі *Witness for Peace* з агідай успамінае: «Калі мы яму казалі аб сьведчаньнях пра масавыя забойствы мяцежнікамі ўрачоў, настаўніц і дзяцей, адказ Хэлмса і ягонай каманды заўсёды быў: **«Ну што ж, яны ўсяго толькі камуністы – іх і трэба забіваць»**. Бедныя апазыцыянэры Шчукін і Калякін! Яны ж ўсяго толькі камуністы...

## Кашмар Трэцяга сьвету

Нягледзячы на свой «спонсарскі» імідж у нашым апазыцыйным асяродзьдзі (абяцаныя 30 млн. грыноў усё ж такі ня хрэн бусьлячы), у сябе на радзіме Джэсі Хэлмс больш вядомы як сэнатар, які заявіў пры атрыманьні крэсла старшыні ў Камітэце па міжнародных справах, што ягонай галоўнай мэтай зьяўляецца шматразовае скарачэньне амэрыканскіх успамог бедным краінам сьвету. **«Амэрыканскаму народу хочацца ванітаваць усялякі раз, калі ён чуе аб дапамозе Трэцяму Сьвету»**, – выдаў Хэлмс у мінулым годзе.

## Геніяльны цэнзар

Мужны барацьбіт за правы нашых незалежных СМІ і свабоду слова (Акт аб дэмакратыі-2001, пункт 10), былы тэлекамэнтатар Джэсі Хэлмс адначасова зьяўляецца адным з самых карыкатурных ворагаў мас-мэдыяў у сваім штаце і нават за яго межамі. Калі адзін рэпарцёр з *Washington Post* спытаўся, што ён лічыць сваім найвялікшым дасягненьнем на пасадзе сэнатара, абаронца Завадзкага шчыра адказаў: **«Жорсткі ўціск гэткіх журналістаў і выдаўцоў як вы. Мне падабаецца лёгкасьць, зь якой я магу гэта рабіць»**. Відавочна, Хэлмс блефуе, бо прачытаўшы такое, Лукашэнка ад зайздрасьці зальецца гаручымі сьлязьмі.

## Сэксуальна заклапочаны расіст

Выступаючы ў абарону беларускай нацыянальнай незалежнасьці і правоў меншасьцяў (пункты 1, 12), Джэсі Хэлмс тым ня менш нездарма малюецца амэрыканскімі карыкатурыстамі ў вобразе пячорнага чалавека. Ягонае рэлігійнае цемрашальства, расізм і нянавісьць да меньшасьцяў настолькі славутыя, што застаўляюць чырванець нават далёка не прагрэсіўных рэспубліканцаў з адміністрацыі Буша. У Паўночнай Караліне ён уласна выдаў законапраект, які скасоўваў усе праграмы affirmative action («станоўчае дзеяньне» – дзяржаўныя праграмы, мэта якіх спрыяць зьнішчэньню расавай, этнічнай і іншай дыскрымінацыі праз ільготы й дапамогу меншасьцям). Падчас перадвыбарчай кампаніі 1992 году на Хэлмса была пададзеная скарга ў Дэпартамэнт юстыцыі за рассылку па адрасах 125 тыс. цёмнаскурых выбаршчыкаў лістоў і паштовак, у якіх нэграм пагражалі каталажкай, калі тыя зьявяцца на выбарчыя ўчасткі. Хэлмс таксама быў адным з тых нямногіх, хто супраціўляўся ўстанаўленьню нацыянальнага сьвята ў гонар Мартына Лютэра Кінга. У гэтым няма нічога надзвычайнага, бо яшчэ ў 1953 годзе Хэлмс публічна выступіў супраць супольнага навучаньня ў школах штата белых і чорнаскурых дзяцей. Дрэннаадукаваны сэнатар (ён так і не закончыў коледжу) заўсёды быў шчырым прыхільнікам былой паўднёва-афрыканскай сыстэмы расавай сэгрэгацыі – апартэіду.




Джэсі Хэлмс лічыўся сярод тых, хто заваліў праект забароны ядзерных выпрабаваньняў.

Памяшаны на тэме сэксуальных пэрвэрзіяў, «жалезны Джэсі» вельмі любіць смачна прамыць косткі сэксуальным меншасьцям, бачачы паўсюль козьні пэдэрастычнага і лесьбійскага лобі. Прозьвішча Хэлмса навечна ўпісаная ў аналы дасье такіх праваабарончых арганізацыяў як *Human Rights Campaign*. Больш за ўсё заступнік беларускіх меншасьцяў любіць абзываць жанчын-сяброў Дэмакратычнай партыі **«праклятымі лесбіянкамі»**. Цікава, як бы адрэагавалі нашыя Хельсінкі камітэт, Хартыя-97 і «Вясна», калі б хтосьці зь беларускіх палітычных бонзаў агучыў падобныя эпітэты ў адрас Процькі, Абрамавай ці Палевіковай?

## Мілітарыст

Беларускія дэмакраты рэгулярна карыстаюца чарнобыльскай тэмай, каб паказаць злачыннасьць савецкай сыстэмы і разбуральныя наступствы для экалёгіі разьвіцьця «мірнага атаму». Між тым іхны кумір Хэлмс пайшоў далей. У 1999 годзе ён лічыўся сярод тых, хто заваліў праект забароны ядзерных выпрабаваньняў. Рост бюджэту ваенных расходаў таксама далёка не апошні з прыярытэтаў ваяўнічага старыкана.

## «Справядлівыя выбары» па-паўночнакаралінску

А цяпер самае цікавае. Адно з жорсткіх патрабаваньняў, якія містэр Сумленьне амэрыканскага сэнату выставіў **«фанатычнай дыктатуры»** шклоўскага вусача, датычыцца свабодных і справядлівых выбараў, якія Лукашэнка павінен неадкладна правесьці, калі жадае пазьбегнуць санкцыяў і няўхільнай кары рашучых беларускіх «контрас». Дык вось, калі прыгледзецца да выбарчых марафонаў самога Хэлмса, контуры «справядлівага» беларускага плебісцыту праступаюць даволі выпукла. У Злучаных Штатах кампаніі каралінскага маралізатара лічацца хрэстаматыйным узорам фінансавай нечыстаплотнасьці і чорнага пі-ару. Гэтак, у 1986 годзе, Фэдэральная Выбарчая Камісія вымушаная была аштрафаваць і распусьціць Паўночна-каралінскі Кангрэс-клюб за незаконнае спансаваньне абраньня Хэлмса ў 1984 годзе. А, напрыклад, у мінулым годзе ФВК наклала штраф ($25 тыс.) на самога Джэсі за незаконнае атрыманьне субсыдыяў у памеры больш за 700 тыс. зялёных. Сярод мэцэнатаў каралінскага дэпутата можна ўбачыць амаль усіх тых бізнэсоўцаў, што славутыя сваімі адкрыта расісцкімі поглядамі, а рэклямныя ролікі Хэлмса прасякнуты гульнёй на пачуцьцях ксэнафобіі і сквапнасьці. Хэлмс не саромеецца гэткіх прыёмаў, бо гэта адпавядае ягонаму разуменьню дэмакратыі. Ён ведае, што паабяцаўшы 30 млн. даляраў апазыцыі якога-небудзь малавядомага ўсходнеэўрапэйскага ханства, агідная рэакцыйная жаба можа зь лёгкасьцю трансфармавацца ў сэксапільную дэмакратычную царэўну, альбо на худы канец, у «стаўпа амэрыканскай палітыкі» (А.Саньнікаў, апазыцыйны былы намесьнік міністра замежных справаў РБ). Усё залежыць ад сумы. Сума названая – фіміям паліўся. Але дэмакраты гэтай далёкай краіны чамусьці забыліся пра стары і верны прынцып: грошы – наперад! ●




**Памяшаны на тэме сэксуальных пэрвэрзіяў, «жалезны Джэсі» вельмі любіць смачна прамыць косткі сэксуальным меншасьцям.**
Хэлмс: «Добра было б вярнуцца да абмеркаваньня спрэчных пытаньняў».




**Рост бюджэту ваенных расходаў таксама далёка не апошні з прыярытэтаў ваяўнічага старыкана.**

## МарАль

**Як бачым, галоўны заступнік нашых дэмакратаў – расіст, цэнзар, мілітарыст, махляр, гамафоб і сэксіст. «Дык што, – узбухне нейкае зубраня. – Вы што, заклікаеце ўвогуле ня браць гранты?» Божа ўратуй! Бярыце на здароўе. Трэба толькі цьвяроза разумець, хто і для чаго іх дае, каб потым ня стаць героем аднаго папулярнага амэрыканскага анэкдоту. А анэкдот наступны. Амэрыканец разгадвае красворд. Пытаньне: «Старэйшы сэнатар ЗША. Слова зь пяці літараў». «Алах яго ведае», – думае чувак. Чытае падказку: «Сэнатар-рэспубліканец ад Паўночнай Караліны». Усяроўна нічога ў галаву не прыходзіць. Глядзіць наступную падказку: «Палітык, вядомы сваімі расісцкімі і гамафобскімі поглядамі». Аматара красвордаў азарае: «Дык гэта ж Джэсі Хэлмс!». Дык вось, калі мы будзем гэтак жа ідэалістычна ставіцца да палітыкі, у шэрагу падказак будзе яшчэ адна «Кумір беларускай апазыцыі».**
**А гранты трэба браць. Па-ленінску!**

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

# Зацюканы апостал

**БАРАНІ СВАЁ! – назва новай кампаніі Маладога Фронту, сэнс якой – адбіцца ад пасягальніцтваў расейскіх алігархаў на беларускія прадпрыемствы і пратрымацца да падыходу заходніх інвэстараў-вызваліцеляў. Севярынец, хоць і лічыцца сынкрэтычным хрысьціянінам-экумэністам, на самой справе – тыповы маніхеец. Ён наіўна лічыць, што Сьвет зваяны дуалістычна. На Ўсходзе жывуць злыя тролі, якія пераносяць карупцыю, крымінал, пагрозу сувэрэнітэту і іншыя грамадзкія прышчы. З Захаду прыходзяць добрыя феі кшталту чарадзейкі Стэлы з Ружовай краіны. Адпаведна сваёй прыродзе яна ператворыць зрусіфікаваных нашчадкаў ВКЛ у мілых эўрапейскіх бюргераў. Такім чынам, вера ў справядлівую прыватызацыю дагэтуль не згубіла сваёй прыцягальнасьці, а толькі набыла экзатычны акцэнт – этнічна-нацыяльны. Аргумэнты містычнага рыначніка Паўла Севярынца камэнтуюць вядомыя палітыкі і эканамісты.**



Павал Севярынец

*– Чаму вы выступаеце супраць прыватызацыі МАЗу пад лёзунгам «МАЗ – беларускі»? Якая розьніца, каму належыць МАЗ, можа галоўнае, каб ён працаваў?*

– Беларусы правыя, хрысьціянскія дэмакраты, заўсёды вымушаныя зьвяртаць асаблівую ўвагу на нацыянальнае пытаньне, бо гэтае пытаньне вельмі балючае й праз яго прыходзяць многія беларускія праблемы. Гэта датычыцца не толькі МАЗу, але й «Хімвалакна» ў Магілеве, «Азоту» ў Горадні, «Нафтану» й «Паліміру» ў Мазыры, Жлобінскага мэталюргічнага камбінату, «Беларуськалія», той жа «Крыніцы». Гэта датычыцца буйнейшых прадпрыемстваў-экспарцёраў, што даюць асноўную частку валюты ў бюджэт краіны. Калі бюджэт краіны будзе ў руках расейскай мафіі, то спавядзяваца на тое, што краіна застанецца беларускай, не прыходзіцца, гэта будзе Паўночна-заходні край. Таму мы прынцыпова выступаем супраць любой перадачы буйных прадпрыемстваў у прыватныя рукі, тым больш расейскія. Прынцыпова ня тое, што яны расейскія, а тое, што **там мафія валадарыць,** алігархі.

*– Якія праекты стратэгіі разьвіцьця гэтых прадпрыемстваў вы прапануеце? Можа, расейскія інвэстыцыі дадуць нам хоць нейкі імпульс да разьвіцьця?*

– Я думаю, што **інвэстыцыі павінны быць чыстыя, не алігархічныя...** Трэба супрацоўнічаць з MAN, Caterpillar, іншымі **канцэрнамі, якія могуць вывесьці МАЗ на сусьветны ўзровень.** Формай гэткага ўзаемадзеяньня магло б стаць **сумесная беларуска-нямецкае ці нямецка-беларускае прадпрыемства.**

*– А дзе палягае розьніца паміж капіталістам з Усходу і з Захаду?*

– Розьніца ёсьць. **Яна такая ж, як і прынцыповая розьніца паміж Расеяй і Захадам.** Зноў падкрэсьліваю, што МАЗ – гэта толькі зьвяно ў ланцугу сыстэмы кантролю над эканомікай Беларусі. **Допускаць такі стратэгічны кантроль над нашай краінай нельга.** І без таго ўжо існуе геапалітычны, культурны, ідэалягічны кантроль Расеі над Беларусьсю.

## «Там мафія валадарыць...»

Так, так сіньёрэ Севярынец. Мафія можа быць выключна расейскай. Мафія на Захадзе – нонсэнс! Таму я, прэм'ер Італіі Сыльвіо Бэрлусконі, маю ўсе падставы лічыць, што ярлык мафіёзі, які наравяць прыляпіць мне ў газэтах, – чыстая хлусьня! Вы палюбуйцеся толькі, сіньёрэ Севярынец, якія паклёпы на мяне наводзяць: **«Сыльвіо Бэрлусконі прыняў учора ў сэнаце закон, які супярэчыць прынцыпам міжнароднай юстыцыі. Закон быў прыняты нягледзячы на пратэсты апазыцыі, якая разглядае новы закон як падарунак злачынцам і тэрарыстам. Не зважаючы на апазыцыю, прэм'ер дабіўся прыняцьця тэксту, які перш за ўсё тычыцца яго самага. Разам са сваім правай рукой, міністрам абароны Чэзарэ Прэвэці, Сыльвіо Бэрлусконі знаходзіцца пад сьледзтвам па абвінавачаньні ў подкупу судзьдзяў. З прыняцьцем гэтага закону ўсе дакумэнты абвінавачаньня, якія прыйшлі з Швайцарыі, будуць лічыцца ня маючымі юрыдычнай сілы. Адначасова новы закон будзе тычыцца ўсіх судовых справаў, якія зараз вядуцца ў Італіі. Гэта тыя тысячы справаў, якія былі ўзбуджаныя за мяжой Італіі, а потым перададзены ў італьянскую пракуратуру. Ёсьць сярод іх справы на міжнародных тэрарыстаў і пэдафілаў. Тэкст новага закону прадугледжае, што ўсе замежныя дакумэнты могуць быць выкарыстаныя сьледзтвам толькі ў выключных выпадках. Сьледчыя па справах мафіі зь Мілану лічаць, што дзякуючы новаму закону Бэрлусконі на волю выйдуць больш за дзясятак злачынцаў, якія займаліся гандлем зброі. Яны былі асуджаныя трохі раней, аднак зараз маюць права патрабаваць перагляду сваёй справы. Пракурор Жэнэвы Бэртранд Бэртоза лічыць, што «гэты закон – катастрофа для міжнароднай юстыцыі. Новыя нормы супярэчаць усім міжнародным дамовам, якія тычацца сьледзтва за мяжой. З гэтым законам Італія рызыкуе ператварыцца ў рай для злачынцаў». Вось так Бэрлусконі арыгінальным чынам вырашыў свае асабістыя праблемы за кошт грамадзтва».** (*Liberation*, 4.10.2001).



Сыльвіо Бэрлусконі

## «Інвэстыцыі павінны быць чыстыя, не алігархічныя...»



Джордж Буш-малы

Паха, я бачу, ты разумны хлопец, зь цябе атрымаецца сьмелы каўбой. Толькі, як хрысьціянін хрысьціяніну, раскрыю табе адзін сакрэт: што расейскі, што амэрыканскі алігарх – адзін хрэн. Алігархі – мой галоўны боль. З таго часу, як я прыйшоў да ўлады, буйныя прадпрыемствы атрымліваюць усё, што пажадаюць. Вось як крытыкуе маю незайдросную долю былы міністар працы ва ўрадзе Біла Клінтана гэты казёл-дэмакрат Робэрт Рэйч: **«Дзелавыя колы цалкам кантралююць дзяржаўную машыну. Кангрэс, Сэнат і Белы Дом цалкам знаходзяцца пад уладай бізнэс-лобі, якому рэспубліканцы абавязаныя перамогай на выбарах. Вытворцы цыгарэтаў разьлічваюць на Белы Дом, каб пазьбегнуць працэса, які быў узбуджаны супраць іх у фэдэральным маштабе. Фармакалягічныя фірмы спадзяюцца атрымаць больш доўгую адтэрміноўку ад заканчэньня права выкарыстаньня патэнтаў на лекі. Прадпрыемствы – буйнейшыя спажыўцы працоўнай сілы – жадаюць атрымаць закон, які аслабіць прафсаюзы. Яны ўжо здолелі зьнішчыць закон Міністэрства працы, які абараняў канвэерных рабочых у выніку захвораваньняў, зьвязаных з паўтаральнымі жэстамі. Што датычыцца авіякампаніяў, якія змагаюцца са сваім упартым пэрсаналам, яны могуць разьлічваць на Белы Дом, каб трымаць забастоўшчыкаў на дыстанцыі. І гэты сьпіс можна працягваць. Зараз у Вашынгтоне кожнае буйное прадпрыемства падвяргаецца вялікаму ціску з боку сваіх кліентаў і акцыянэраў, якія разьлічваюць выкарыстаць шанец, каб пацягнуць коўдру на сябе. І кожная асацыяцыя прадпрымальнікаў павінна паказаць сваім членам, у якой ступені іхнія інвэстыцыі ў выбары Прэзыдэнта і Кангрэсу не былі дарэмнымі. Калі прыйдзе час выпраўленьня законапраекту аб падатках, для розных сэктараў эканомікі пачнуць квітнець фіскальныя ільготы».** (Паводле *New York Times*)

## «Канцэрнамі, якія могуць вывесьці МАЗ на сусьветны ўзровень...»



Проста глядаліст

Сусьветны ўзровень, кажаш? Дык вось, умовай прыходу заходніх інвэстыцыяў у любую краіну Трэцяга Сьвету ці Ўсходняй Эўропы зьяўляецца менавіта адсутнасьць у вас гэтага самага ўзроўню, і найперш, у вобласьці заробкаў, сацыяльных правоў і экалягічных законаў. Ваша «інвэстыцыйная прыцягальнасьць» – гэта працаваць заўсёды лепш і больш, а зарабляць і мець правоў заўсёды менш, чым у іншых краінах вашага кшталту. Інакш ніхто да вас ня прыйдзе. Вось прыклад фірмы Nike, што выбрабляе ў Інданэзіі красоўкі, якія, дарэчы, каштуюць у ЗША 150 даляраў, плоціць мясцовым рабочым меней за тры даляры ў дзень. Гэта жабрацкі заробак нават для Інданэзіі. Калі ўвосені 1995 Тонгрыс Сытуморанг, рабочы заводу Nike ў Сэрангу мабілізаваў сваіх калег на страйк за павышэньне заробку, мясцовыя вайскоўцы проста пасадзілі яго пад замок на адзін з заводзкіх складаў і трымалі яго там круглыя суткі пад наглядам. Іншыя два прафсаюзных актывісты, Сугіярці і Марсына, пра якіх даведалася ўся краіна, заплацілі за сваю барацьбу жыцьцём. Іх зьнявечаныя катаваньнямі целы былі знойдзеныя на звалках прамысловых адходаў фабрык, дзе яны спрабавалі арганізаваць страйк. Міністар прамысловасьці Інданэзіі Тунгкі Арывібора ў адказ на скаргі працоўных зьвярнуў увагу, што прыцягнуць інвэстараў можна выключна нізкімі заробкамі і антырабочым заканадаўствам. Калі павысіць мінімальны заробак, **«мы ня будзем здольныя канкураваць з Кітаем, Віетнамам і Бангладэшам»** (*International Gerald Tribune*, 18.03.1996). У Кітаі нават цэнтральны ўрад вызнаў, што працоўнае заканадаўства ігнаруецца ТНК. За першыя 6 месяцаў 1993 на вытворчасьці адбылося 11 тыс. няшчасных выпадкаў са сьмяротным вынікам. У той сама час тыя, хто правіць ад імя кітайскай рабочай клясы, падаўляюць любы супраціў, і перш за ўсе ў «свабодных эканамічных зонах» для іншаземных інвэстараў. **«Тых, хто скарджыцца і спрабуе арганізаваць прафсаюз, адпраўляюць на тры гады ў лягеры, дзе сёньня адбываюць пакараньне сотні прафсаюзных актывістаў».** (Паводле *Financial Times*, 20.06.1996)

# антыглябалізму

## «Сумеснае беларуска-нямецкае ці нямецка-беларускае прадпрыемства...»

Брава, брава, гер Севярынец. Працягвайце й далей верыць ва ўтопію партнэрскіх стасункаў на сумесным нямецка-беларускім прадпрыемстве. Раскажыце пра гэта маладафронтаўцам. І, калі ласка, ні ў якім разе не заходзьце на сайт кансультатыўнай рады ўраду Нямеччыны па пытаньнях прыватызацыі ва Ўкраіне (гл. www.privatisation.kiev.ua). Ня дай бог пабачыце, што піша дырэктар рады Генрых Бонэнбэрг у арыткуле *Вимогі до успішної приватізації в Україні*:

**«Іншаземныя партнэры будуць гатовыя ўкладаць уласныя грошы ў эканоміку Ўкраіны толькі тады, калі ўмовы ў палітыцы і дзяржаўным кіраваньні даюць ім гарантыю бясьпекі інвэставанага капіталу, і калі яны ў рамках належным чынам распрацаванага заканадаўства самі могуць прымаць рашэньні пра выкарыстаньне інвэставанага капіталу. Інвэставаньне азначае ня проста прадстаўленьне капіталу, але й удзел у прыняцьці рашэньняў. Умовай гэтага ёсьць наяўнасьць у інвэстара неабходнай для прыняцьця большасьці галасоў у гаспадарчым таварыстве. Гэта значыць, што прадпрыемствы павінны быць прыватызаваныя гэтак, каб інвэстар атрымаў выключнае права»**.

Я яшчэ раю ніколі не цікавіцца вынікамі прыватызацыі ў Паўднёвай Азіі. Вось што пісаў па яе выніках у 1979 сынгапурскі часопіс *Business News*:

**«Структура капіталу сумеснага прадпрыемства прадвызначае нераўнапраўнае становішча мясцовага партнэра. Першапачатковы капітал – гэта толькі пачтковая стадыя стварэньня прадпрыемства. Для завяршэньня будаўніцтва патрэбныя фонды, якія ў 10 разоў пераўзыходзяць першапачатковы капітал. У мясцовага партнэра гэткіх сродкаў няма, таму ён становіцца пасынкам у іншаземца. Мясцовыя прадпрымальнікі не вытрымліваюць памераў новых інвэстыцыяў пры пашырэньні інфраструктуры або мадэрнізацыі, што таксама вядзе да сталых пазыцыяў у іншаземных манаполіяў»**.



Герхард Шродэр

## «Яна такая ж, як і прынцыповая розьніца паміж Расеяй і Захадам...»

Вашы б словы ды Бушу ў вушы, міласьцівы гаспадзін Севярынец. **«70% устаўнога фонду кампаніі «Балтика», якая прыватызуе піўзавод «Крыніца», належаць швэдзкай кампаніі «Baltic Brewerages Holding A.B.»** (гл. афіцыйны сайт кампаніі www.balt.ru). Гэта значыць, што бюджэт Беларусі будзе ў руках не расейскай, а швэдзкай мафіі? Раней інтарэс да «Крыніцы» мелі вытворцы вядомых марак «Клинское» і «Толстяк». На лэйбле «Толстяка» выяўляе тлусты барадаты мужык у традыцыйнай расейскай сарочцы. Аднак сарочка – гэта адзінае, што ў яго ёсьць расейскага. Кампанія належыць бэльгійскай фірме Sun Interbrew. Або возьмем «Ассоциацию пивоварен Ивана Таранова». Можа, бачыў у камках яе прадукцыю: «Три медведя», «Пит», «Доктор Дизель». Фірма знаходзіцца ў Калініградзе і дарэчы вядзе зараз перамовы аб набыцьці кантрольных пакетаў піўных заводаў у Берасьці і Бабруйску. Аднак не сьпяшайцеся пікетаваць расейскую амбасаду. «Пит» таксама не належыць расейцам. Яе гаспадаром зьяўляецца амэрыканская кампанія Deitrot Brewernig Company. Наступны ваш непрыяцель – «Российский Аллюминий». Раю вам паглядзець яго сайт, дзе дарадчык кампаніі Ліўшыц распавядае, што фінансаваць праекты кампаніі за мяжой пагадзіліся такія фінансавыя канторы з ЗША як Stanly Morgan, Goldman Sachy і г.д. Глябальная капіталістычная сыстэма герархічная і шанцы такіх слабых краінаў як Расея заняць у ёй адпачатку высокія месцы – нулёвыя.
Такім чынам, сёньня Расея, інтэгруючыся ў сусьветную эканоміку, ператварылася ў частку пэрыфэрыі капіталізму.



Уладзімір Пуцін

## «Дапускаць такі стратэгічны кантроль над нашай краі... нельг



Дзядзька Сэм

Я, дзядзька Сэм, поўнасьцю на вышым баку, містэр Севярынец. Не дапусьціць стратэгічнага кантролю Расеі над вашай краінай – гэта сьвятое! Толькі прыход заходніх карпарацыяў забясьпечыць сувэрэнітэт Беларусі. Праўда, адразу папярэджваю, што заходнія ТНК пэрыядычна будуць выкарыстоўваць свае рэсурсы для падтрымкі некаторых палітычных партыяў. Аднак хіба можна гэта лічыць умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы? Гэта ж так, гулянкі й цацанкі. Падумаеш у Сальвадоры кампанія Antel, філіял ITB, падтрымлівала партыю рэакцыйнага полкоўніка Х.Гарсіа. Або ў 1975 United Brand і Standard Fruit стварылі спэцыяльны фонд з мэтай дэстабілізацыі сытуацыі ў Панаме, каб не дапусьціць падаткавых рэформаў у галіне гандлю бананамі. Напрыканцы 70-ых, калі ўрад Пэру папрасіў займ у амэрыканскіх банкіраў, якія працуюць у краіне, апошнія выставілі ўмовай правядзеньне ў краіне шэрагу палітычных рэформаў. На пачатку 80-ых ганаровымі сябрамі кіраўніцтва балівійскага філіялу кампаніі Texaco былі амаль усе міністры ўраду. Амэрыканская фірма Galf дабілася, каб яе прадстаўнікі ўдзельнічалі ў паседжаньні ўраду краіны. У Чылі амэрыканскія кампаніі выдзелілі праціўнікам прэзыдэнта Альендэ 350 мільёнаў даляраў на зьвяржэньне ўраду Народнага Фронту. Кампанія British Petroleum давала ваеннаму рэжыму Калумбіі інфармацыю аб экалягічных актывістах. Наступствам гэтага 6 такіх актывістаў было забіта (*Guardian* 30.06.1997; *Corporate Watch Address Book*, 1997). У 1996 у Нігерыі былі пакарныя сьмерцю 19 палітыкаў, якія выступалі супраць здабычы нафты кампаніяй Shell Oil. Згодна брытанскаму каналу Chanell-4, Shell Oil была ўцягнутая ў забесьпячэньне нігерыйскага рэжыму зброяй. Кампанія Philip Morris вяла бізнэс у Паўднёвай Афрыцы падчас эканамічных санкцыяў супраць рэжыму апартэіду. У ЦРУ дасюль працуе спэцыяльны аддзел па супрацоўніцтву з ТНК. Як бачым, ніколі заходнія ТНК не спрабавалі ўстанавіць стратэгічнага кантролю над краінай, куды яны інвэставалі грошы, а наадварот, ахоўвалі яе сувэрэнітэт.

# ДВАНАЦЦАЦЬ


Куды дзеў гранты, прахіндзей!
Адказвай, а то я цябе ў прэсе прэпарую, грантасос!
Чэкісты Статкевіч і Фядута былі майстрамі развязаць язык любому Ганчарыку.
Нарэшце, лёд крануўся
Добра, скажу. Вы памятаеце кампутарную сетку з офісу «Зубра»? Дык вось, у адзін з працэсараў я й засунуў 23 мільёны
Ану-ка, матушка Ярмошына, падайка мне нажніцы
Але чэкісты ня ведалі, што іхная размова праслухоўваецца праз «жучок» у кабінэце прэзыдэнта. Той таксама вырашыў пусьціцца на пошукі мільёнаў. Трэба было толькі зьмяніць імідж...
Цяпер на людзях я сыйду за баптысцкага пастыра айца Аляксандра. Нічога, матушка, хутка разбагацеем, выкупім у расейцаў наш піўны заводзік «Крыніца», і зажывем як людзі.
Знойдзем скарб, створым моцны дэмакратычны рух, арганізуем дэмакратычную рэвалюцыю
Наступным ранкам, ахоплены ружовымі марамі, Статкевіч выйшаў на пошукі 12 кампутараў.
«Ва-аленкі, валенкі...»
Грабяць!
Пазвольце-пазвольце! А дзе ж вашы вусы, бацька?! Я вам морду наб'ю
Я сам вам морду наб'ю!
Ухапіўшыся за сыстэмны блёк, Статкевіч пацягнуў яго на сябе. Мінак кампутару не пакінуў. У запале барацьбы Статкевіч прызнаў у апанэнце прэзыдэнта
Вы палітычны афэрыст, Статкевіч
Сам вы афэрыст! Я буду скардзіцца ў АБСЭ
Раздаўся трэск кажуха. Праз пару хвілінаў чэрава кампутара было абгледанае. Ніякіх грантаў унутры не было
Я родны брат «Зубра» ад марганатычнага шлюбу. Хацеў набыць як сувэнір нешта з аргтэхнікі партыі
Справа будзе патрабаваць пэўных выдаткаў
Першая няўдача не ахаладзіла чэкістаў. Яны даведаліся, пра лёс канфіскаваных кампутараў павінен ведаць заўхоз прэзыдэнта Мясьнікові, які цяпер курыруе Акадэмію навук
Вось ваша інфармацыя. Тут усё, кампутарык да кампутарыка, факсік да факсіка.
Галуба, ей-богу, рады душой, ды забыўся зьняць з банкамату
І тут прэзыдэнта Акадэміі навук правялі з геніяльнай прастатой.
А-а-а... дзе грошы?..
Жыва дакладвай, куды дзеліся рэквізаваныя ў зуброў кампутары
Дам-ка я яму інфармацыю пра тэхніку, канфіскаваную ў праваабарончай арганізацыі «Вясна»
Але да наступнага візыту ён ужо быў падрыхтаваны
Вось, калі ласачка. Уся партыя ў якасьці гуманітарнай дапамогі падараваная ўраду КНДР.
Вы ведаеце, хто гэты магутны старык? Гэта Статкевіч, бацька беларускай сацыял-дэмакратыі, асоба, набліжаная да Віка
Каб набыць абаротны капітал на пошук скарбу, Фядута і Статкевіч вырашылі патрэсьці менскую палітычную эліту. Быў скліка(ны) устаноўчы зьезд блёку «За сацыяльную справядлівасьць». Тут Фядуту панесла.
Спадарства! Ад усюль чуюцца стогны працоўнага люду. Мы павінны працягнуць ім руку і мы яе працягнем! Жыве блёк «За сацыяльную справядлівасьць»! Рабіце свае ўнёскі, таварышы!
Да уж!
У лепшым выпадку – як Леонаву 2 гады з канфіскацыяй. У горшым – як Завадзкаму, па башцы рыдлёўкай
Дамовіліся, Навасяд, ты выставіш канфіскаваныя кампы на аўкцыён.
Цудоўны вечар, спадарыня. Давайце сёньня сустрэнемся каля Макдональдс
Афіцыянт, рахунак! Мадам, паедземце ў нумары.
Ха-а-мы!
Яшчэ 3 пайшлі ў тэатар «Хрыстафор», 2 – у рэдакцыі «Саўбелкі»
Два кампутары набыла дыктарка БТ Сулімава
Адзін комп зьнік у сутарэньнях МенскМэтроБуду
Тацяна, я як дырэктар БТ зарабляю 2000 баксаў, а ад іх нічога не застаецца. Усё, я сыходжу да Язерскай
Жжуць! У вас уся сьпіна чырвона-зялёная
Тут трэба дзейнічаць інакш
Я да вас па далікатнай справе. Прадайце мне гэтыя дзьве жалезныя каробкі.
Хаміце, парніша!
Ведаеце, нядаўна заходнія хакеры аднавілі старынную моду на гнуткія 5-дзюймовыя дыскеты. Тут мне акурат знаёмы дэмакрат з Будапэшта прывез адну. Мяняемся?

# ПРАЦЭСАРАЎ



Сулімава з задавальненьнем памяняла свае абноўкі на навінку заморскай кібэр-моды



Штаб-кватэра сацыял-дэмакратаў папоўнілася двума новымі выпатрашанымі кампутарамі. Грантамі там і ня пахла.



Уварваўшыся ў кабінэт Якубовіча, Фядута закаціў скандал. На самой справе ён хацеў даведацца, як працуе замок у рэдакцыі.






У выкрадзеных з «Саўбеліі» кампутарах нічога не было, і чэкісты накіраваліся да тэатру «Хрыстафор». Уступіўшы ў кантакт з актoрам Крыжаноўскім, яны прапанавалі яму прадаць тое-сёе з тэатральнага рэквізыту









Раптам Фядута кінуўся за нейкім мінаком, якім аказаўся лідэр камуністаў Калякін.


Увечары Крыжаноўскі вынес чэкістам абяцаныя тэатральныя рэквізыты



Але й тут іх чакала расчараваньне.


Тымчасам «балтыйскі пастыр Аляксандар» мераў нагамі паўночна-карэйскую зямлю



Любімы кіраўнік карэйскага народу Кім Ір Сэн сядзеў на тэрасе, калі з бамбукавых зарасьцяў выйшаў абадраны чалавек славянскай наружнасьці



Нарэшце, праз нейкі тыдзень, любімы кіраўнік карэйскага народу Кім Чэн Ір не вытрымаў

На трэці дзень грошы былі атрыманыя. Айцец Аляксандар аддаў грошы, пагрузіў у вузялок кампутарныя працэсары, што насамрэч паходзілі з офісу праваабарончай арганізацыі «Вясна», і адвез іх на бераг Ціхага акіяну.
А потым разрубіў тэхніку сякерай на дробныя кавалкі. Праз пяць хвілінаў усё было скончана.
Ведама, што ніякіх сорасаўскіх грантаў там не было й паміне.
Айцец, кінуўшы дзікі позірк на марскую стыхію, адправіўся на радзіму, каб зноў заняцца сваімі прывычнымі справамі.
***
Між тым чэкісты шукалі сьлед апошняга кампутара з офісу «Зубра», які зьнік у падзямельлі МенскМэтроБуду.
Нарэшце сьлед быў узяты...







Гэта былі апошнія словы Вялікага працэсатара. Статкевіч даўно ўжо меў зуб на сваіх кампаньёнаў. Ён таміўся ідэяй стварыць сістэмную апазыцыю. Уначы ён выкінуў з халадзільніка ўсю ежу, ведаючы, што Фядута не вытрымае катаваньня голадам.



З самага ранку Статкевіч ... у ... МэтраБуд і ... працэсар ... Аднак ... нічога не было.



Абсалютна спустошаны ён ішоў па Менску і быў спускаўся на станцыю мэтро Магілёўская, калі ўбачыў інваліда.





Гранты былі знойдзеныя. Іх можна было пабачыць, нават памацаць рукамі. Статкевіч памацаў і закрычаў. Ягоны крык азбудзіў усю сталіцу. Усходнеэўрапейская краіна Б. прачнулася й рушыла ў свой штодзённы паход.
***
А Фядута? Разам са сваімі новымі кампаньёнамі ён рушыў на пошукі падпольнага грантасоса грамадзяніна Бандарэнкі...

# Вайна і эканоміка

*«Вайна – самы даходны бізнэс» – гэтая аксыёма вызначае сёньняшнюю палітыку Сьвету.*



**ПАЛІТЫК: «Спачатку мы ствараем рабочыя месцы ў ВПК, потым у галіне фармацэўтыкі; спачатку – у хімічнай прамысловасьці, потым у ахове навакольнага асяродзьдзя. І гэтак далей. Лёгіка наступная: ты прадаеш зброю, а параненым ад гэтай зброі – лекі; ты прадаеш нітраты фэрмэрам, а ачышальныя ўстаноўкі – грамадзянам. На гэтым усё й трымаецца».**

Пад вайной разумеюць стан вострага канфлікту паміж краінамі (або ўнутры краіны, калі гаворка йдзе пра грамадзянскую вайну). Сродкамі вырашэньня ваеннага канфлікту зьяўляецца арганізаваны гвалт (выкарыстаньне арміі і зброі). Вайну санкцыянуе casus bellum, повад да канфлікту. Гэтак, падставай для вайны ЗША з Афганістанам была арганізаваная талібамі гібель грамадзянаў ЗША 11.09.2001, то бок мела месца «забойства суайчыньнікаў».

Дарэчы, акрамя «забойства суайчыньнікаў» гісторыя ведае іншыя падставы вайны. Якія толькі матывы ня йшлі ў ход для апраўданьня ваенных дзеяньняў.

1) Абражаная нацыянальная годнасьць (1871, Францыя абвяшчае вайну Прусіі таму, што кароль Вільгельм павярнуўся сьпіной да францускага пасла Бэнэдэці).
2) Забойства суайчыньнікаў (1910, пасьля таго, як у Шандуне кітайцы забілі двух нямецкіх місіянэраў, Нямеччына арганізавалі ў Кітай ваенную экспэдыцыю).
3) Абарона правоў грамадзянаў (расейская апэрацыя ў Чачэніі ў 1999)
4) Непарушнасьць дыпляматычных дамоваў (у 1939 Вялікабрытанія ўступіла ў вайну зь Нямеччынай за тое, што немцы парушылі дамову аб нэйтралітэце Бэльгіі).
5) Абарона рэлігіі (паходы крыжакоў).
6) Заступніцтва за братоў па лінгвістычнай групе (расейска-турэцкая вайна 1877-1878).
7) Узьяднаньне або вызваленьне нацыі (абвяшчэньне Італіяй вайны Аўстрыі ў 1915 на падставе далучэньня рэгіёну Трэнціна, населенага італьянцамі).
8) Барацьба з тыраніяй (бамбардзіроўкі Югаславіі ў 1998).
9) Гістарычныя правы (акупацыя Румыніяй Бэсарабіі ў 1918).
10) Юрыдычныя правы (барацьба за спадчыну).

Між тым суачыньнікаў мудохаюць, гонар нацыі апускаюць, а братоў па веры гнабяць штодня. Палітыкам пра гэта дакладаюць, аднак яны ня чухаюцца. Напрыклад, маліны басконскіх тэрарыстаў ЭТА, якія замачылі ўжо болей 1000 гішпанцаў, знаходзяцца на тэрыторыі Францыі, але чамусьці Мадрыд не бамбіць Элісэйскія палі вакуумнымі бомбамі. У 1983 у Бэйруце выбух тэрарыстаў-камікадзэ даставіў экспрэс-поштай ў райскія кушчы душы трохсот амэрыканскіх пехацінцаў. Згодна амэрыканскаму часопісу *Monthly Review,* пінкертоны з ЦРУ яшчэ тады дакапалася, што тэракт прабашлялі афганскія душманы з тых самых грошай, што ім даў Вашынгтон. Аднак у 1983 на партыю цынкавых трунаў зь Лівану ніхто не зьвярнуў увагі. ЗША кроў з носу было трэба вытурыць савецкі кантынгент з Афгана рукамі афганскай апазыцыі. Таму такі матыў як «забойства суайчыньнікаў», як, дарэчы, і ўсе астатнія зачэпкі для вайны – фікцыя.

А можа вайна – праява псыхікі? Амэрыкосы перанялі ў спадчыну ад прашчураў-краманьёнцаў ваяўнічы інстынкт. Зараз храмасома, адказная за вайну, кусае падсьвядомасьць Буша, а той несьвядома арганізуе пуштунскім кабетам і малалеткам мардабой. Тады можна арганізаваць для кіраўніцтва США комплекс мэдычных працэдураў. Гарантуем, што пасьля жмені рэляніюму інтарэс Буша да Афганістану затухне. Відавочна, што біяпсыхалёгія тут таксама ні пры чым. Кляўзэрвіц канстатаваў: «Вайна – гэта працяг палітыкі». З дапамогай вайны палітыкі дасягаюць мэтаў, якія ня могуць быць дасягнутыя мірнымі сродкамі. Іх першая ўстаноўка для вядзеньня вайны – эканоміка. Гэта было вядома яшчэ Арыстоцелю, які характарызаваў вайну як мастацтва прысваеньня. Аўтар *Споведзяў* Аўгустын дэкляраваў: «Qiud bella nisi magna latrociniai» (Што такое вайна, як не рабаўніцтва ў вялікім маштабе).

Не хавалі матываў вайны і ваенныя. Калі прускі генэрал Блюхер пабачыў Лёндан, ён не стрымаўся: «Што за горад для разрабаваньня!». Матэрыяльныя бонусы, якія прыносіць вайна, выступалі ў рознай форме. Для антычнасьці каштоўнасьць мелі рабы, у новы час ваенныя экспэдыцыі адпраўляліся ў Тмутаракань па перац і золата. Потым галоўнымі матэрыяльнымі благамі сталі тэрыторыі калёніяў. 19 стагодзьдзе адкрыла этап войнаў за рынкі збыту. З сярэдзіны 20-га повадам для вайны стала сыравіна. Паралельна вайна становіца рэцэптам для пад'ёму палітычнага рэйтынгу, што таксама гарантуе ільготы, пэрсанальную вілу, службовы мэрсэдэс, славу – г.зн. таксама матэрыяльны дабрабыт.

Аднак паспрабуйце сказаць на публіцы, што вы разьвязваеце вайну дзеля спэцпайку? Таму палітыкі маскіруюць ідэалёгію вайны. Мазгі акучваюцца квяцістымі фразамі кшталту Радзіма, доўг, традыцыя. Так, афіцыйная вэрсія місіі ЗША – пакончыць зь сеткай тэрарыстаў «Аль-Каіда», аднак ніхто ня кажа пра геапалітычныя і эканамічныя інтарэсы ЗША ў афганскай кампаніі. Адным з чыньнікаў паходу на Ўсход зьяўляюцца радовішчы нафты і газу. Другі распальнік вайны – Ваенна-Прамысловы Комплекс ЗША, у якім занята 3 мільёны чалавек. Для 37 000 фірмаў і 100 000 субпадрадчыкаў замовы Пэнтагону – крыніца заробку, таму бойка ў Афгане значыць для іх тлусты куш. Нарэшце, Буш эксплюатуе публічны шок ад падзеяў 11.09.2001, каб падняць свой рэйтынг, які быў панізіўся з-за эканамічнага крызысу.

Мы сыходзімся на тым, што вайна зьяўляецца воляй вузкай палітычнай групы, якая стаіць ля ўлады і падпарадкоўвае грамадзянаў мэтадамі прымусу або прапаганды. Дывідэнды, што атрымліваюць палітыкі ад вайны, могуць выступаць у розных формах, аднак яе галоўны стымул – прысваеньне матэрыяльных дабротаў. Той жа фундамэнтальны матыў мае і рынкавая эканоміка. Ці не дае гэта падставы разглядаць вайну як форму прадпрымальніцтва? Розьніца са звычайным бізнэсам не вялікая. Сродкамі ўтварэньня дадатковага кошту на вайне зьяўляецца чалавечая маса, якая павялася на фуфло палітычных лахатроншчыкаў ●

**Георгі Жукаў**

## УрОкі гістОрыі

# «Эканамічны цуд» праз мілітарызм

Агрэсіўная ваенная палітыка можа паслужыць стымулам для выхаду з крызысу, у якім сёньня апынулася амэрыканская эканоміка. Як паказвае нядаўняя гісторыя, у доўгатэрміновай пэрспэктыве выдаткі такога труку часта пераўзыходзяць атрыманы посьпех. Прыклад – Нямеччына 30-х і 40-х гадоў. Да сёньня нацысты і іхнія заступнікі трыюмфальна прыводзяць ліслівыя лічбы статыстыкі беспрацоўя: 5,5 мільёнаў беспрацоўных да прыходу Гітлера да ўлады ў студзені 1933 і 1,8 мільёнаў у ліпені 1935 году. Перад пачаткам вайны Нямеччына ўвогуле дасягнула ўсеагульнай працаўладкаванасьці. Зразумела, тут не абышлося без маніпуляцыяў лічбамі: многія дзясяткі служачых, звольненых па палітычных і расавых матывах, якія ня здолелі знайсьці працу, не былі занесеныя ў сьпісы беспрацоўных. Але перадольваньне крызысу было тым ня менш рэальным. Што за ім хаваецца?

Перадваенны нямецкі «эканамічны цуд» зьвязаны ня столькі з арыгінальнасьцю палітыкі забесьпячэньня занятасьці, колькі з узгадненьнем палітыкаў, якія праводзіліся ў разнастайных сфэрах. Калі тэхнічна паводзіны нацысцкай дзяржавы перад пагрозай капіталістычнага крызысу некаторымі падыходамі нагадвалі агульнасусьветныя (павелічэньні дзяржвыдаткаў на буйныя праекты), то ў палітычным пляне яны адрозьніваліся. Усе прынятыя меры накладваліся насамрэч на раздаўленае дыктатурай грамадзтва, уся моц якога была кінутая на прысьпешнае пераўзбраеньне для будучай вайны.

Палітыка ажыўленьня эканамічнай дзейнасьці патрабуе велізарных дзяржаўных інвэстыцыяў. Пераўзбраеньне з самога пачатку знаходзілася ў сэрцы эканамічнай і сацыяльнай палітыкі Нямеччыны, не чакаючы 1936-1937 гадоў. Калі правая рука Гітлера – Герынг узначальвае Міністэрства эканомікі і прапануе чатырохгадовы плян эканамічнай падрыхтоўкі да вайны, найбольш лібэральныя кіраўнікі, як банкір Шахт, былі адхіленыя ад улады. З 1932 па 1935 гады вытворчасьць сталі і чыгуну пабольшылася ў тры разы. Частка дзяржаўных расходаў на пераўзбраеньне ўздымаецца да 4% у 1933, да 18% ужо ў 1934 і 50% у1938: з 6-ці мільярдаў рэйхсмарак у 1934-1935 яна дайшла да 18-ці мільярдаў у 1938-1939. У 1938-ым годзе вайсковы сэктар займае 28% ад усяго валавага нацыянальнага прадукту, у параўнаньні з 7% у Францыі. Гэтыя лічбы ўключаюць у сябе таксама такія калявайсковыя дзейнасьці як будаўніцтва дарог, чыгункі, аэрадромаў, разьвіцьцё хімічных прамысловых эрзацаў (сурагатаў, вытворчасьць замяняльнікаў накшталт эсэнцыі ці сынтэтычнага каўчуку). Перад намі тыповая аўтарксычная (самадастатковая) пэрспэктыва, якая была ўсхваленая нацысцкімі кіраўнікамі ды шэфамі хімічнага картэлю IG-Farben. Абсалютны прыярытэт, які быў аддадзены накапленьню зброі, кампэнсуецца стрымліваньнем заробкаў: рэальныя заробкі былі заблякаваныя напрацягу ўсяго пэрыяду і частка заробкаў у нацыянальным даходзе памяншаецца з 63% да 57%. Гэта адбываецца тым лягчэй, бо ніякі прафсаюз (яны былі ўсе забароненыя) ня мае магчымасьці адстойваць правы перад наймальнікамі і кіраўнікамі прадпрыемстваў, якія былі прызнаныя рэжымам маленькімі «фюрэрамі» на сваіх прадпрыемствах.

Усе ведаюць, што эканамічная палітыка, накіраваная на індустрыяльную падрыхтоўку да вайны, заўсёды вядзе дзяржаву ў тупік, за выключэньнем сытуацыі, калі выйсьце з гэтага тупіку знаходзіцца ў самой вайне. І, фактычна, захопніцкая вайна, калі яна мае ад пачатку палітычныя матывы, павінна, у сьвядомасьці мілітарыстаў, забясьпечыць экспансію нацыянальнай індустрыі або захоп сыравінных крыніц; яна павінна таксама прымусіць прайграўшыя краіны кампэнсаваць у той ці іншы спосаб усе былыя, цяперашнія і будучыя затраты Рэйха. Гэтая схема ўнівэрсальная і, відавочна, прымяняльная ў дачыненьні да амэрыканскага паходу ў Афганістан.

Як усё адбываецца ў рэальнасьці? Вернемся ў Трэці Рэйх. Спачатку – беспрацоўе, потым – агульная занятасьць. Карціна можа падацца ідылічнай, калі не прымаць да ўвагі ўжываныя сродкі і не разглядаць яе праз прызму цяперашняга часу ды гістарычнай пэрспэктывы. Такім чынам, пэўная частка нямецкага насельніцтва магла падтрымаць рэжым (наколькі адсутнасьць вольных выбараў нам дазваляе меркаваць аб гэтым), які ёй вярнуў працу і пачуцьцё квітненьня. Але калі гэткая ілюзія была недаравальнай ужо ў 1938 годзе, відавочнай яна стала пазьней. Рэальным вынікам мілітарысцкага «эканамічнага цуду» для аднаго нямецкага народу стала не 5 мільёнаў новых працоўных месцаў, а 8 мільёнаў дадатковых трупаў ●




Гітлераўская палітыка «Дранг нах остэн» – лепшы лек ад эканамічных калізіяў

(Паводле матэрыялаў часопісу *Alternatives economiques*)

*X-files*

## Нафта як рухавік вайны

31 кастрычніка 2001 вядучае францускае выданьне *Le Monde* прызнавалася, што Эўропе не вядомыя сапраўдныя прычыны вайны ЗША з талібамі. Каб зразумець іх, трэба прыгадаць, што калі ў 1996 «Талібан» захапіў Кабул, амэрыканцы станоўча адрэагавалі на гэты факт. Мала хто ведае, што ў хуткім часе пасьля падзеньня Кабула прадстаўнік талібаў меў сустрэчу ў Х'юстане з шэфам нафтавай кампаніі Unocal.
Амэрыканцы прапанавалі афганцам салідны працэнт за права эксплюатацыі нафтаправоду, які павінен быў праходзіць праз тэрыторыю Афганістану. Іншы амэрыканскі дыплямат сказаў, што «Талібан будзе новай Саудаўскай Аравіяй». Інакш кажучы, калі Кабул стане даваць сыравіну для Захаду, пытаньні дэмакратыі і перасьледу жанчын адыйдуць на другі плян.
Чаму сыравіна, а не правы чалавека вызначае палітыку ЗША ў Азіяцкім рэгіёне? Як толькі Буш-малодшы пераступіў парог Авальнай Залі, ён запрасіў наведаць Вашынгтон міністра замежных справаў Індыі Ясванта Сынгха (Jaswant Singh). Справа ў тым, што адзін з галоўных спонсараў выбарчай кампаніі Буша, нафтавы канцэрн Enron пажадаў, каб Буш дапамог ім пашырыць свой бізнэс на індыйскім субкантынэнце, у прыватнасьці надавіў на індусаў, каб яны дазволілі Enron прыватызаваць прадпрыемствы па перапрацоўцы нафты ў Бамбэі.
Акрамя Enron цесныя сувязі зь сям'ёй Бушаў мае кампанія Cairn Energy. У 1999 фірма знайшла нафту на заходнеіндыйскім беразе. Прэзыдэнт Cairn Energy Біл Гэмэл (Bill Gammell) – асабісты сябра старога Буша. Вядомыя факты, што бацька Гэмэла фінансаваў рэспубліканскую партыю і дыверсіі ЦРУ супраць Кубы. У 1961 яны падаравалі ЦРУ два караблі для высадкі дэсанту «гусанас» на Кубу.
Віцэ-прэзыдэнт Дзік Чэйні таксама мае інтарэсы ў нафтавым бізнэсе. За ім стаіць канцэрн Halliburton, які мае рэпутацыю самага вялікага ў сьвеце пастаўшчыка тэхнікі для нафтавай індустрыі. Перад тым як пайсьці на працу да Буша, Чэйні займаў у канцэрне пасаду прэзыдэнта. Абедзьве кампаніі – Halliburton і Cairn Energy – зьяўляюцца партнэрамі дзяржаўнай нафтавай фірмы Бангладэшу Petrobangla.
У 1994 іншая амэрыканская фірма Ramco Energy пачала ўкладаць інвэстыцыі ў Азэрбайджан разам з кампаніяй Pennzoil, якую пазьней набыла кампанія Devon Energy. У раду дырэктараў Devon Energy уваходзіць Брэнт Скаўкрофт (Brent Scowcroft), які падчас прэзыдэнцтва Буша-старога быў ягоным дарадчыкам па пытаньнях бясьпекі. Што да Ramco Energy, то трохі пазьней яна перапрадала свае канцэсіі ў Азэрбайджане Амэрадзе Хэс, якая мае асабістыя сувязі зь Нікаласам Брэдзі (фінансавы міністар пры Бушы-старым). Інтарэсы Devon і іншых амэрыканскіх нафтавых фірмаў прадстаўляе амэрыканска-азэрбайджанская гандлёвая палата. Яе віцэ-прэзыдэнтам да нядаўняга часу быў Рычард Эрмітэдж (Richard Armitage), сёньня дарадчык дзяржаўнага сакратара Коліна Паўэла. Апошні ў красавіку 2001 арганізаваў мірны саміт прэзыдэнтаў Арменіі й Азэрбайджану. Тэмай саміту стала ўрэгуляваньне канфлікту ў Нагорным Карабаху. Ачаг небясьпекі пагражае стабільнасьці транзыту нафты з Касьпію ў Чорнае мора. Буш мае таксама сувязі з кампаніяй Firma Enron Corp, шэф якой Кэнэт Лэй (Kenneth Lay) стары сябра Буша і спонсар рэспубліканцаў. Містэр Лэй вядзе некалькі праектаў у Цэнтральнай Азіі. Ня будзем забываць пра дарадчыка Буша па міжнародных справах Кандалізу Райз, якая сядзіць 10 гадоў у крэсьле кіраўніцтва канцэрну Chevron. Chevron працуе з казахскім газам у Карага-Чангаку.
Такім чынам, сёньняшні амэрыканскі ўрад – гэта ўрад вялікіх нафтавых босаў. Бізнэс на нафце, або па-ангельску Big Oil, значна ўплывае на зьнешнепалітычную лінію Вашынгтону. Бясьпека прыватнага бізнэсу і яго пашырэньне відавочна былі адным з галоўных чыньнікаў сёньняшняй вайны.
Цяжка не пагадзіцца зь вядучым амэрыканскім часопісам *Foreign Affairs*, які прызнаў: «У аснове зьнешняй стратэгіі ЗША сёньня стаяць не палітычна-ідэалягічныя забабоны, а карысныя выкапні».

**Гудрун Оснэр**

# Прывід аўтарытарызму бадзяецца па ЗША

Калі Буш уехаў ў Белы дом, менш за палову ягоных суайчыньнікаў палымянелі каханьнем да новага прэзыдэнта. На выбарах 2000 большасьць грамадзянаў ЗША выкрэсьліла ягонае прозьвішча ў бюлетэнях на карысьць Гора. Толькі дзякуючы фокусам выбарчага заканадаўства і рэзалюцыі Вярхоўнага суда Буша абвесьцілі прэзыдэнтам. Яшчэ больш рэйтынг рэспубліканцаў падкасіўся ўвесну 2001 з пачаткам эканамічнага крызысу. Сутыкнуўшыся з ростам беспрацоўя, адміністрацыя дэманстравала поўную дэмаралізаванасьць. За тры тыдні да манхэтэнскіх тэрактаў, 20 жніўня *The New York Times* аддаў першую паласу пад артыкул, прысьвечаны паніцы, якая назіраецца ў колах амэрыканскай эліты. Газэта пісала наступнае: «Сусьветная эканоміка набліжаецца да глябальнай рэцэсіі. Апошнія статыстычныя паказчыкі сьведчаць: эканомікі Італіі, Нямеччыны, Мэксыкі, Бразыліі таксама знаходзяцца ў стагнацыі. Шмат экспэртаў прадракаюць крызыс, падобны да нафтавага шоку 1973 году». Кіраўніцтва Ford Motor Co абвесьціла намеры правесьці масавыя звальненьні. Адзін з функцыянэраў Форда спавядаўся: «Ня бачу ніводнага фактара, які здольны аздаравіць сытуацыю ў эканоміцы напрацягу наступных 12-18 месяцаў.

Падобныя тэндэнцыі назіраліся ня толькі ў галіне машынабудаваньня. Трохі раней загадаў доўга жыць рынак высокіх тэхналёгіяў. Згодна Дэпартамэнту працы толькі за жнівень колькасьць беспрацоўных вырасла на 4,9 адсоткаў. Ачкануўшы за свае дывідэнды, укладчыкі пачалі пазбаўляцца акцыяў фірмаў high tech. У жніўні індэкс Dow Jones рухнуў на 230 пунктаў. Напрыканцы артыкулу журналіст з *The New York Times* вельмі скептычна ацаніў шанцы адміністрацыі Буша трымаць сытуацыю пад кантролем. Да асартымэнту ўнутраных праблемаў рэспубліканскі ўрад мог прыплюсаваць зьнешнія. Амэрыка знаходзілася ў відавочным канфлікце з Эўропай пасьля таго, як гаспадар Белага дому адмовіўся падпісваць Кіоцкі пратакол аб скарачэньні выкідаў вуглякіслага газу ў атмасфэру. Адносіны з Кітаем былі таксама напружаныя як наступства інцыдэнту з самалётам. Не маглі не трывожыць сон Буша антыглябалісты, якія сталі мэйнстрымам моладзевай культуры. Аднак усе крытычныя заўвагі на адрас рэспубліканцаў улятучыліся пасьля 11 верасьня. Дзякуючы кампаніі і мэдыям, СІІІА ахапіў патрыятычны ўгар. Буш, як пісаў *The Times*, па-сапраўднаму стаў лідэрам нацыі. Сёньня яго падтрымліваюць 85-90 працэнтаў грамадзянаў краіны.

Падмуркам гэтай шалёнай папулярнасьці стала вайна. Аднак дыфірамбаў у прэсе кіраўніцтву ЗША ўжо мала. 14 верасьня *Washington Post* у сваім эдытарыяле *New Rules* заклікаў да абмежаваньня грамадзянскіх правоў: «Калі контрудар на тэрарыстычныя атакі становіцца сэнсам амэрыканскай палітыкі, калі Злучаныя Штаты павінны весьці цяжкую кампанію супраць тых, хто ім пагражае, мы павінны вызнаць асаблівую палітыку і дыпляматыю. Кангрэс і іншыя інстытуты павінны прынесьці ў ахвяру ў імя бясьпекі такія свабоды як прыватныя правы, свабоду руху і інш.» Дзясяткі мільярдаў даляраў былі выдзеленыя на абарону і бясьпеку. Любая крытыка ваенных і ЦРУ успрымаецца як здрада. Мары рэакцыянэраў з *Wall Street Journal*, якія гадамі агітавалі за тое, каб пакончыць зь віетнамскім сындромам, зьдзейсьніліся. Нават дэмакраты прагаласавалі за рэзалюцыю кангрэсу, якая дае Беламу дому надзвычайныя паўнамоцтвы. Толькі за першы тыдзень пасьля тэрактаў былі арыштаваныя больш за 1000 чалавек. Большасьць зь іх дасюль знаходзіцца за кратамі, нават ня ведаючы, у чым іх абвінавачваюць. Амэрыканская нацыя ў патрыятычным экстазе дабраахвотна адмаўляецца ад сваіх дэмакратычных правоў ●

**Альбэрт Гор**

*Залежнасьць валавага ўнутранага прадукту ЗША ад масавых псыхалягічных шокаў.*
*(паводле матэрыялу* The Wall Street Journal Europe*)*



*РэцЭнзіі*

# Па самапалах... агонь!

**Н*АВІНКІ* ўжо пачыналі агляд беларускай самвыдатаўскай прэсы. Незалежна ад накладу і способу капіяваньня, кожнае з выданьняў прадстаўляе каштоўнасьць як праяўленьне свабоды слова і самавыяўленьня, на якую кожны з нас мае поўнае бясспрэчнае права. Таму дасылайце нам нумары самвыдату, усе (!) самвыдатаўскія праекты будуць абавязкова рэцэнзаваныя і зьявяцца на старонках *Навінак*.**

## *Белачка*, №1 2001

Інвэктыва – культурны фэномэн сацыяльнай дыскрэдытацыі суб'екта праз адрасаваны яму тэкст, а тасама ўстойлівы моўны зварот, які ўспрымаецца ў той ці іншай культурнай традыцыі як абраза для свайго адрасату. Мэханізмам інвэктывы найчасьцей выступае мадэляваньне сытуацыі парушэньня культурных патрабаваньняў з боку адрасату і выйсьця яго індывідуальнага ўчынку па-за межы акрэсьленай канкрэтнай нацыянальнай культурнай нормы паводзінаў – незалежна ад ступені рэальнасьці і ў цэлым рэалістычнасьці абвінавачаньняў. У газэце пад назвай *Белачка*, якую выдаюць сябры літаратурна-музычнага аб'яднаньня «Зас"ралі казарму» (В.Жыбуль, Джэці, Віктар Міхайлавіч Ываноў і іншыя) упершыню надрукаваная амаль што поўная энцыкляпэдыя нецэнзурнай лексыкі, якая ў поўным аб'ёме павінна задаволіць патрэбы айчынных ужывальнікаў гэтага плясту нацыянальнай культуры. Гэта, безумоўна, вялікае дасягненьне айчыннай лінгвістыкі. І своечасовае, бо ў наш цяжкі час, калі ў сусьветным павуціньні «Інтэрнэт» выстаўленая на ўсеагульны агляд лаянка на ангельскай, францускай, галяндзкай, нямецкай, польскай і славацкай мовах, а беларусы як заўсёды спазьніліся ў гэты апошні вагон цягніку культурнай самастойнасьці. Бо менавіта праз сацыяльную дыскрэдытацыю «чужога», праз нэгацыю сьцьвярджаецца саматоеснасьць, «тутэйшасьць» і г.д. Мы – гэта не яны. А гэта павінна быць выказаная ясна і выразна ў экспрэсіўнай і даступнай форме. Акрамя таго, як адзначаюць замежныя сацыёлягі, у грамадзтве, дзе лаянка губляе сваю экспрэсіўную моц і становіцца проста лінгвістычным фэномэнам, узрастае гвалт і бандытызм. Такім чынам, «ЗК» уносіць свой пасільны ўклад у барацьбу з бытавым тэрарызмам, бо, як заўважана, «калі чалавек вылаяў свайго апанэнта, замест таго, каб раскраіць яму чэрап, ён зрабіў першы крок у кірунку цывілізацыі, адкрытага прававаога грамадзтва і грамадзянскай супольнасьці» Высокі ўклад у нацыянальную культуру літаратурна-мастацкай групы «ЗК» адзначыў кіраўнік нашай дзяржавы. У віншавальным лісьце ён пажадаў рэдкалегіі і гурту новых посьпехаў і пашкадаваў, што «ня можа нічаво падарыць, патаму што у самаво астаўся пасьледні рупь у кармане і яшчо клюшка, каторай он сам пяльмені есьць, а есьлі он і яё аддасьць, з чым жа сам астанецца?» (гэтак у тэксьце). Далучаемся да віншаваньняў і чакаем ад гурта новых посьпехаў.




## *ЛІТВА: глос монархісты.* №5(11), 2001

Газэта *Літва: глос монархісты* ўзьнікла разам зь іншымі падобнымі газэцінамі на руінах беларускага апазыцыйнага руху: «Вельмі абмежаванай стала ідэйна база опозыцыі сяго дня» – піша ў рэдактарскім артыкуле «Мысьлі монархісты» аўтар, які схаваўся пад псэўдонімам Літоўскі Монархіста. Рэдакцыйная суполка газэты *Літва* (Аляксандар Стральцоў, Ян Карвацкі і інш.) паставіла сваёй мэтай адраджэньне «Вялікага Княства Літоўскага на чале із Вялікім Князем». Форма «адраджэньня», а гэта значыць новая перамена масавага мэнталітэту традыцыйная – праз лінгвістычныя экспэрымэнты. Мова газэты стылізаваная пад архаічную «старабеларускую» зь яўным прысмакам старапальшчызны, што на думку закладальнікаў суполкі, павінна ўвесьці ўжывальніка зьмененага камунікатыўнага коду ў стан рыцарска-рамантычнага нэўрозападобнага экстазу.
Гісторыя, аднак, сьведчыць, што Вялікае княства Літоўскае было ня столькі рыцарскай, колькі яўрэйскай дзяржавай. «Рыцарамі» былі зборшчыкі падаткаў – ваяры, узброеныя мячамі, якія насілі на галавах «шаломы» – жалезныя шапкі з вострым верхам, падобныя на чырвонаармейскія будзёнаўкі.
Адзіным сродкам, каб ўратаваць сытуацыю, ёсьць, на думку рэдакцыі, «ясна паведаць усім, іж ВКЛ было і ест нашым Гаспадарствам, і мы яго нехібна адновім» – заяўляе «Монархіста». Чарговы (5-ы) нумар *Літвы* зьмяшчае й вялікі матэрыял «Гаспадарстваваcьць у сьвятле традыцыі», дзе выкладзены г.зв. «Програм адраджэньня гаспадарстваваcьці». Усе эканамічныя, сацыяльныя, экалягічныя і міжнародныя праблемы, якія засталіся нявырашанымі зь мінулага стагодзьдзя ў Беларусі павінен вырашыць «Велькі Князь», які «ест памазанцам Божым». А паўнамоцтваў у «Велькага Князя» ня менш чым у цяперашняга прэзыдэнта РБ: «Ён ест тэж вайсковым водзам начальным, распараджа ўладай выканаўчай, выконванай з помаччу міністраў. Зацьверджа і агалоша новы уставы. Мянуе ўсюткіх урадніікаў Княства. Удзеля амнестыі для вязьні палітычных і ўзыча ласкі злачынцам крымінальным. Агалоша вайну, завера супакой, і паразумева ся зь іншымі гаспадарствы....» Кіруючай элітай новага «Гаспадарства» павінная стаць новая «шляхта» («тэж баяры-рыцары»). Пры гэтым аўтар «Програму» не дае аніякай гарантыі, што МВФ не спалохаецца новага «Велькага Князя» і дасьць краіне крэдыт пад нізкія адсоткі. Газэта *Літва* – цацачнае выданьне для наведнікаў рыцарскіх клюбаў, дагэтуль упэўненых, што іхнія «панны» ня паляць і ня лаюцца матам.




## *Хамло*, газэта літаратурных меншасьцяў (Магілёў), 2001

Літаратурная група ў складзе Бені Спінозы, Атланта С., Электроніка і іншых аматараў паэзіі выдала першы нумар сваёй літаратурнай газэты «Хамло», прысьвечаны, як напісана ў падзагалоўку, «ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў». Адрасатамі літаратурнага аркуша літаратурных меншасьцяў зьяўляецца (пра што сьведчыць назва выданьня), як ні дзіва, большасьць насельніцтва Магілёва, прынамсі амаль усе ўзроставыя групы – людзі старэйшага пакаленьня будуць з задавальненьнем пазіраць на шматлікія савецкія ордэны, якімі ўжо ўзнагародзіла сябе газэта (сярод іх і ордэн Леніна, і Кастрычніцкай рэвалюцыі, і Працоўнага сьцяга), фатаздымкі помнікаў Леніну і Сталіну, і чырвонага кхмера з адрэзанай галавой ворага сусьветнага пралетарыяту. Для аматараў культурнага прадукту больш маладзёвай, ці «авангарднай» субкультуры ў газэце ёсьць матэрыял на актуальную сёньня гомаэратычную тэматыку. Патрыятычны верш напрыканцы нумару пакідае шанец спадзявацца, што літаратурныя вопыты групы будуць працягвацца ў слушным накірунку ●

# *За* **ве**ру, за цар*а*, дай германцу па шар***ах***!



***Перад царскім судом германскія шпіёны доўга адпіраліся, што праводзілі разьведчую дзейнасьць у Сувальскім уезьдзе. Вырак быў жорсткім, але справядлівым: 20 гадоў катаргі (умоўна).***

Пяць гадоў таму сьвет узрушыў грандыёзны скандал: беларускія лётчыкі зьбілі паветраны шар амэрыканскіх аэранаўтаў. Правільна зрабілі, ці не, але ўсе аматары паветраплаваньня павінны ведаць, што пальба па павятровых шарах зьяўляецца традыцыяй нашых памежнікаў. Вынаходнікамі рытуалу былі памежнікі з заставы на заходняй мяжы (у пачатку 20 стагодзьдзя мяжа паміж Расеяй і Нямеччынай праходзіла недалёка ад Гародні і Беластоку). У тыя часы памежнікам прыходзілася абараняць ня толькі гэткія нацыянальныя сьвятыні як руская гарэлка, чый манапольны стан на рынку спрабавалі падарваць тлятворныя сілы Захаду ў асобе кантрабандыстаў. Ня меней ім прыходзілася абараняць і ваенную тайну Расейскай імпэрыі. У чым яна заключалася, ніхто ня ведаў, аднак немцы ўвесь час хацелі яе высьветліць.

Час ад часу хто-небудзь з афіцэраў кайзэраўскага Генэральнага штабу пад выглядам турыстаў паглыбляўся ў абсягі загадкавай краіны п'яных мужыкоў і вялікіх пісьменьнікаў. Аднак місіі штоpазу заканчваліся правалам.
І тады нямецкая разьведка вырашыла пайсьці іншым, паветраным шляхам. У ліпені 1909 у раёне Беластоку па той бок расейска-нямецкай мяжы быў падняты ў паветра германскі паветраны шар з ваеннымі аэранаўтамі. Халёныя тэўтоны праз свае манoклі пачалі аглядаць ва ўпор ісконна рускую тэррыторыю Паўночна-Заходняга краю, пакачваючы галовамі ў шышкастых касках і гагочачы нешта на сваім швабскім дыялекце. Душа царскага паграніца такога зьдзеку ня вытрымала, і ён пачаў страляць па супастатах зь вінтарэзу. Нямецкія фраеры на шары хутка апусьціліся і неўзабаве патрабавалі суда над памежнай стражай. Пачаўся міжнародны скандал.
Суд над памежнікамі адбыўся у мястэчку Пшэлянск 23 чэрвеня 1910 году. Судзьдзі былі прызначаныя з абодвух бакоў. Працэсу быў прызначаны спэцыльны артыкул у мясцовай газэце *Голосъ Белостока*. Карэспандэнт пісаў, што немцы адразу пачалі скардзіцца, нібыта шар знаходзіўся над тэрыторыяй Нямеччыны, калі яго нахабна абстралялі расейскія салдаты. На гэта расейскі штабс-капітан заявіў, што ўсе патроны, якія ён выдаў, былі зьвернутыя абратна, акрамя таго ўсе памежнікі на заставе як адзін зачытваюцца творамі графа Льва Талстога аб не сапраціўленьні злу гвалтам. Аднак тут германцы ўнесьлі ў залю суду абалонку шару, які кулі трохлінеек ператварылі ў друшляг. Адпірацца далей ня мела сэнсу. Тэўтонаў прыйшлося адпусьціць.
Такім чынам, беларускі прэзыдэнт зьяўляецца далёка ня першым шарабойцам у нашай гісторыі. Аднак у адрозненьні ад піянэраў гэтай справы ён карыстаецца ня дзедаўскай бярдзянкай, а рэактыўнымі аэраплянамі, узброенымі ракетамі «паветра–зямля» і «паветра–вада» ●

**Мікалай Брусілаў**

## Дыялёгі пра кіно:

# Пасланьне да апазыцыйнай моладзі



**Як заўсёды напрыканцы восені, акурат праз тыдзень пасьля таго, як са сталічнай флёры аблезла апошняя лістота і шандарахнулі памяркоўна-кантынэнтальныя маразы, Менск прымаў удзельнікаў VIII Міжнароднага кінафэстывалю краінаў СНД і Балтыі «Лістапад-2001». Натуральна, наша Бацькаўшчына таксама прэзэнтавала на суд гледачоў і журы свой кінапрадукт. Як і мае быць, творчы фрукт гаспадароў фэсту мэлядрама А.Яфрэмава «Поводырь» не застаўся бяз прэміі. Нягледзячы на зьнешне калдырны сюжэт, прыз сымпатыяў мясцовых гледачоў, атрыманы беларускім блокбастэрам, можа зьдзівіць толькі іншаземца. Аб асаблівасьцях беларускага кінамастацтва на палосах *Навінак* сёньня разважаюць культурны этнапалітоляг Эльвіра ЖБАНКОВА і работніца менскага заводу «Кінадэталь», прафэсійны глядач лацінаамэрыканскіх сэрыялаў Зінаіда ФЯДОРЧАНКА.**

**З.Ф.:** Мне фільм спадабаўся. Пасьля прагляду ў кінатэатры «Октябрь» яфрэмаўскага «Поводыря» на душы ў мяне стала неяк цяплей. Павучальны фільм. Спачатку я ўся аж сьперажывалася за гераіню — дзевачку гэтую, Шурачку. Маладая яшчэ, а ўжо сьляпая, бедненькая, мужык п'яніца, матка гуляшчая. Дзякуй богу, што хлопец ёй добры папаўся. Вось, Элачка, як бывае. Студэнціка ні за што ў турму на 15 сутак садзяць, а яму сабачку няма каму аддаць. Ён хлопец добры, пасьля арміі, але дурны, лезе куды ня трэба, вось і пакутуе з таго. А тут гэнае дзіця сьляпое, наглядаць яе няма каму, яно да сабачкі таго і прылашчылася...

**Э.Ж.:** Вы, Зінаіда Філімонаўна, правільна адзначылі павучальны акцэнт і пэдагагічны топас беларускай карціны. Дзяржава наша не настолькі багатая, каб фінансаваць пустыя багемныя фільмы. Ідэалягічны стрыжань «Поводыря» ў самым жанры ягоным. У чым сутнасьць мэлядрамы: прадказальны сьлязьлівы сюжэт з хэпі-эндам павінен суцяшаць гледача, кажучы яму, што ўсе ягоныя праблемы палягаюць выключна ў прыватнай сфэры і знайсьці шчасьце можна толькі ў рамках пануючай сыстэмы і ідэалёгіі. Герой трапляе ў камэру на Акрэсьціна не таму, што дрэнны закон або ўлада, а з-за таго, што ён, цытуючы анатацыю, «невязучы».

**З.Ф.:** І не кажы, Элачка. Ты чалавек вучоны, дык патлумач, чаму той хлопец мне майго балбеса нагадаў. У майго сына што не вясна, дык усё нейкія «шляхі», «шэсьці», «маладыя хранты», а потым насі яму перадачкі ў турму на Акрэсьціна. Можа і ён гэткі ж невязучы. От каб яму папалася такая дзяўчынка, няхай сабе і сьляпая, і глухая. Дактары памогуць, як у фільме, яны ж таксама ў турму трапляюць. Можа яму і шчанюка падарыць?

**Э.Ж.:** Мілачка, яму ня пса трэба, а білет у кіно. «Поводырь» – гэта ня проста мэлядрама. Гэта кіно-пасланьне да беларускай моладзі. Структурныя кампанэнты сюжэту гэтага фільму суць алегорыя на экзыстэнцыю апазыцыйнага юнацтва. Інтэрпрэтуйма нанова фабулу «Поводыря», замяніўшы героя фільму Арцёма на ягонага рэальнага прататыпа – лідэра адной з апазыцыйных арганізацыяў Пашу Севярынца, лёс якога таксама круціцца вакол дробных адсідак за дробнае хуліганства. Як у Арцёма, сытуацыя ўскладняецца тым, што з-за турмы Паша ня можа забясьпечыць нагляд за сваёй арганізацыяй (мянушка ратвэйлера Мальчык нішто іншае, як алюзія на «Малады Фронт»). У выніку рэальны прататып, ня могучы парваць парочнае кола адсідак, толькі яшчэ больш радыкалізуецца і працягвае пакутаваць. Герой жа фільму пасьля адсідкі не абазьляецца, а знаходзіць сэнс жыцьця ў дапамозе інвалідам – сьляпой прыгажуні Сашы. Нават нягледзячы на другую ходку, ён знаходзіць у сабе сілы не паддацца антыдзяржаўнай прапагандзе. І калі пры выхадзе зь вязьніцы ласыя да смажанага рэпарцёры пытаюцца ў яго, ці мае ягонае вызваленьне нейкае дачыненьне да палітычнага канфлікту, Арцём шчыра адказвае: адзіны існуючы ў Беларусі палітычны канфлікт – гэта «канфлікт партвэйна з гарэлкай». Рэзультат – хэпі-энд і вырашэньне ўсіх супярэчнасьцяў: прыгажуню вылечвае адзін з сукамэрнікаў Арцёма, а былы мужык гераіні і гуляшчая незадаволеная маці збліжаюцца. Бясплатны ўрок Севярынцу.

**З.Ф.:** А я вось чула, Бацька наш выдзяляе мільён даляраў, каб «Беларусьфільм» зьняў гістарычную карціну пра княгіню нейкую. Тая ў Слуцку даўней жыла, а прыйшлі татары, дык яна лепш за мужыкоў гэтым чуркам прас*/рацца давала. Гэткая беларуская Жанна Д'Арк. Ой, Элачка, хачу паглядзець тое кіно і мужа звадзіць, можа і яго чаму навучыць. Як ты думаеш?

**Э.Ж.:** Здаецца, што фільм прыўрочаны да новай сацыяльна-эканамічнай сытуацыі. Асаджаны басурманамі Слуцак – гэта ж наша рэспубліка ў атачэньні НАТА. Каб вытрымаць асаду княгіня падымае кошты на камунальныя паслугі і транспарт. Случакі, разумеючы гістарычны момант, тужэй зацягваюць слуцкія паясы і чакаюць выратаваньня, якое абавязкова прыйдзе. Мараль: і нам беларусам трэба пацярпець. Увогуле, раю вам, Зінаіда Філімонаўна, глядзець у карані фільмаў, а не на паверхню літаральнага сэнсу. А сабаку не купляйце. Ад яе толькі алергія. Вось у маёй суседкі зьнізу быў эрдэльтэр'ер...

# зАМАРГАлОМ

## Жывое шоў для вертухаяў.

**Дэн, Марго, Жанна, Макс, Вольга і Анатоль. Імёны герояў перадачы «За стеклом» ня ведае сёньня хіба толькі жалезабэтонны беларускі нацыяналіст, які прынцыпова не глядзіць расейскага ТБ, каб не атруціцца паганым маскальскім духам. У транспарце, курылках, на лаўках каля пад'ездаў толькі й баек: ці трахне Макс Марго, або як Жанна прымала душ. Аднак бум папулярнасьці шоў «За стеклом» выклікае ня толькі абывацельскія камэнтары. Гэтак, ахоўнікі турэмнай зоны X верна падмецілі, што месца іхняй працы вельмі нагадвае шоў «За стеклом». Прынцып арганізацыі шоў і правілаў распарадку турмы той самы: мянты наглядаюць за вязьнямі, вязьні, ведаючы, што за імі наглядаюць, спрабуюць не выклікаць гневу (чытай, спадабацца) кіраўніцтва зоны (чытай, публікі). Канстатацыяй падабенства роднай турмы і імпартнага шоў на ТВ6 вертухаі не абмежаваліся. Нарадзілася ідэя арганізаваць у сябе на зоне нешта падобнае. Шоў назвалі «За маргалам» (на блатным арго: маргала – вочка ў камэры, праз якое вертухаі пасуць асуджаных). Такім чынам, Беларусь, зона X, у адной «хаце» сядзяць 6 чалавек, зь якіх адзін выйдзе пераможцам і атрымае месца на верхніх нарах. Магчыма...**




# Вычварэнцы адлятаюць у вырай

**Пятнаццаты корпус БДПА добра вядомы па ўсім Менску як «карабель на Ўруччы». І ня толькі сваёй незвычайнай формай ці тым, што ён ужо амаль сорак год крышыцца і развальваецца, але ніяк не разваліцца. Апошнія месяцы ён прыцягваў сотні зацікаўленых вачэй, дзякуючы практыкуючаму пад ягонымі сьценамі эксгібіцыяністу.**

**Упершыню гэты вычварэнец зьявіўся ўлетку і адразу прыцягнуў увагу супрацоўнікаў і студэнтаў Архіфаку акадэміі. Разам з трэшчынамі ў сьценах корпусу і аўдыторыямі, дзе ўзімку халадней чым на вуліцы, эксгібіцыяніст стаў новай адметнай рысай будынку. Ён не расстаецца са сваім роварам, які дазваляе яму вельмі хутка перасоўвацца ад кропкі да кропкі.**

**Звычайна ён «працуе» ў невялічкім лесе, у некалькіх кроках ад інтэрнатаў №15, 16 і 17 БДПА. Лес гэты акружаны дарогай. Па гэтай самай дарозе звычайна і рушаць нічога не падазраючыя студэнты і студэнткі архітэктуры, якім пашанцавала стаць ахвярамі сэкс-вычварэнца.**

**Калі дзяўчынка (хлопчыкаў ён, відаць, ня любіць пужаць: навошта адкрываць канкурэнтам свае таямніцы?) набліжаецца да яго, той, як і мае быць для эксгібіцыяніста, здымае штаны і з гонарам дэманструе тое, што хаваў у іх.**

**Чакайце, не сьпяшайцеся бегчы да мэтро, каб хутчэй пабачыць нашага героя. Незнаёмец зьяўляецца ня часта, але рэгулярна ўлетку і ў першай палове восені. Апошнія ж тыдні пра яго нічога не чуваць – напэўна, цяпер ужо досыць халодна для ягонай нялёгкай працы. Пасьля зьнікненьня эксгібіцыяніста ў пакоях корпусу №15 зноў усталявалася звычайная атмасфэра суму і сна. Толькі чуваць, як усьміхаюцца дзяўчынкі-«ахвяры», прыгадваючы відовішча, якое адкрылася ім пад вопраткай вычварэнца.**

**Але можа ў гэтага чалавека ёсьць нейкая іншая мэта дзеяньня акрамя імкненьня да прыгожага? Сама сабой прыгадваецца апазыцыйная накіраванасьць мэнталітэту студэнтаў-архітэктараў. Вядома, што каля 80 адсоткаў БДПА-шных «зуброў» пасьля верасьнёўскай няўдалай спробы пабудаваць лепшую дзяржаву, у хуткім часе пачнуць будаваць менавіта дамы і Палацы рэспублікі. Хто ведае, можа запалохваньне апазыцыйнага студэнцтва – гэта проста курсавая ці, нават, разьлікова-графічная праца ў студэнтаў другога курса Вышэйшай Школы КДБ па дысцыпліне «Асновы правакацыі і маніпуляваньня адмарозкамі»... Тады перад намі знак, што з гадамі да камітэту прыходзіць досьвед, бо гэткая ціхая дзейнасьць значна эфэктыўнейшая за звычайныя арышты, допыты ды шмананьні. Відавочна адно: з надыходам маразоў сэзон «Рыцараў плашча ды чэлеса» адышоў. Хто ведае, куды яны зьнікаюць. Хутчэй проста пераходзяць з палявога на кабінэтны рэжым працы. Будзем чакаць цёплых дзен і спадзявацца, што тады мы зноў пабачым іх на шырокіх вуліцах Менску, а таксама й тое, што яны хаваюць у сваіх штанах●**

Жыгімонт Фрэйд

# Булава Гетмана

## (інтэрактыўная аповесьць)

*MTXL*

«Прывабная жамойтка» аказалася на самой справе брудным прытонам са старой уродлівай гаспадыняй і без аніякага намёку на вясёлых і прывабных жамойцкіх дзяўчынак. Залатыя часы гэтага шынку прайшлі ўжо гадоў дваццаць таму, калі Андрэй Ст'анкевіч яшчэ хадзіў у Езуіцкі калегіюм і рыхтаваўся да судовай кар'еры ў віленскіх кабаках. Было відавочна, што былы копны судзьдзя даўно ня быў тут, інакш ён бы не прымусіў свайго сябра тырчаць у такім дрэнным месцы.

Вось ужо некалькі часоў палкоўнік Сьліва чакаў у «Прывабнай жамойтцы», але ані ўлан-гарналыжнік Бадзяга, ані Андрэй Ст'анкевіч усё ніяк не зьяўляліся. За суседнім ад Сьлівы сталом распалажылася кампанія віленскіх рамесьнікаў, прадстаўнікоў цэху сьмецяроў і гільдыі магільшчыкаў. Такое суседзтва ўжо добра абрыдла старому рубаку, бо цэхавікі моцна падпілі і пачалі высьвятляць, чый клан найбольш карысны для гораду. Іх нястройная размова ішла на высокіх танах. Апанэнты зьвярталіся адзін да аднаго ня йнакш як «магільныя чэрві» ці «кучы сьмецьця».

Бутэлька кантрабанднай гарэлкі «Маскоўская» ўжо была амаль спустошаная Сьлівам, калі ў дзьвярах зьявіўся зьзяючы пан Андрэй зь нейкім сьвіткам у руках.



– Вось апошняе зьвяно ў ланцужку, які прывядзе нас да булавы! – пан Андрэй патрэс сьвіткам, – За гэтую паперу мне прыйшлося выкласьці сквапным манахам-езуітам з тузін залатых талераў. Будзем спадзявацца, што абяцаны табой лужок у Жабкавічах кампэнсуе мае страты.

– Лужок ты атрымаеш, дзядзька, як я табе і абяцаў, але можа спачатку ты мне патлумачыш, як гэтая паперка, якой ты размахваеш у мяне перад носам, можа прывесьці нас да булавы і калі я не застануся задаволены тваім тлумачэньнем, то разззлуюся па сапраўднаму! І ёсьць за што: гэта па тваёй міласьці я ўжо некалькі гадзін знаходжуся ў асяродзьдзі гэтых п'яных арадзкіх дурняў, а гарэлка, між тым, скончылася!

Пан Андрэй замовіў яшчэ гарэлкі для сябе і свайго сябра, і распачаў апавяданьне.

– Вернемся да нашых казачкоў. Калі я агледзеў месца злачынства і цела загінуўшага, то адразу зразумеў, што мы маем справу зь нечым незвычайным. Было бачна, што шыя ардзінарца гетмана разарваная яўна зьвярынымі сківіцамі. Некалі я бачыў падобную рану ў егера, на якога кінуўся загнаны воўк. Маю гіпотэзу пацьвердзіў манускрыпт, знойдзены ля трупа. Трэба сказаць, што старонка зь летапісу трапіла да казака раптоўна: хлопец шукаў паперу на самакрутку ,і вырваў старонку зь першай трапіўшай яму пад руку кнігі. Гэтае супадзеньне вельмі мне дапамагло. Я прачытаў легенду аб ваяводзе-ваўкалаке і паверыў кожнаму слову. Я сыходзіў з праціўнага: замятаць сьляды з дапамогай містыкі і старых бабуліных баек ужо стала дрэннай традыцыяй у нашым княстве. І дасьведчаны злачынца-прафэсіянал, які толькі і быў здатны скрасьці такую каштоўнасьць, ніколі б не апусьціўся да такога нізкага стылю. Адсюль выснова: дзейнічалі сапраўдныя патусбаковыя сілы, і ўсё, што выкладзена ў легендзе – праўда.

На гэтым месцы апавяданьне пана Ст'анкевіча было пярэрвана: нехта зь «земляных чарвей» ужо надта дапёк чымсьці «кучы сьмецьця», атрымаў тумака і паляцеў цераз увесь стол да нашых герояў. Палкоўнік у той жа момант магутным пінком накіраваў небараку абратна, чым і выклікаў незадавальненьне абодвух бакоў прафэсійнага канфлікту.

З крыкамі «Дык вы, шляхецкія морды, працоўных людзей не паважаеце?!» сьмецяры і магільшчыкі разам накінуліся на сяброў ●

**Пытаньні чытачам:**

Хлопчыкі і дзяўчынкі, выкарыстоўваючы мэтад Ст'анкевіча «выснова ад праціўнага», адкажыце на пытаньне «Дзе Завадзкі? Дзе Ганчар?»









# Другое прышэсьце

## братоў Вачоўскі

Куды ідзеш, Нэо? – У Сыён, каб ізноў прыняць сьмерць... Кажуць, што менавіта гэткімі словамі пачнецца «Матрыца ІІ» – працяг нашумелага фільму братоў Вачоўскі. Гэтым разам баявыя дзеяньні кібэрсупэрбога Нэо будуць праходзіць у адзіным застаўшымся «сапраўдным» горадзе паўстанцаў – Сыёне, дзе неўтаймаванага змагара з Матрыцай чакае бойка з кібэранты-Нэо, здрада, сьмерць і новае ўваскрашэньне з працягам у трэцяй частцы. Нечаканым для ўсіх стаў вобраз антыгероя – галоўнага змагара Сыстэмы супраць чалавецтва. Спачатку плянавалася, што яго сыграе Джэт Лі, вядомы ўсім па фільму «Рамэо павінен памерці», але 11 верасьня кан'юнктура кінарынку рэзка зьмянілася. І каб пасьпець за жыцьцём і паказаць талібам, чаго вартыя сапраўдныя амэрыканцы, Эндзі і Лары Вачоўскі спынілі кіназдымкі, перапісалі сцэнары і стварылі сэнсацыю: вобраз кібэрантыхрыста ўвасобіць у сабе ня толькі здрадніка і прысьпешніка Сыстэмы, але і галоўнага ворага ўсяго амэрыканскага народу – талібан у асобе Ўсамы бэн Ладэна. Як стала вядома, вядуцца перамовы з галоўным кандыдатам на гэтую ролю – адным з малодшых братоў Усамы, імя якога пакуль што трымаецца ў тайне. На момант падпісаньня нумару ў друк сям'я бэн Ладэнаў згоды сваёй на гэта яшчэ не дала.

Пад зьмены трапіла і месца правядзеньня кіназдымкаў. Цяпер палігонам для здымак замест запляніраваных Аўстраліі, Чыкага і Сан-Францыска будзе служыць галоўным чынам тэрыторыя Афганістану, якая кантралюецца Паўночным Альянсам, і новая «паголеная» панарама Нью-Ёрку. Як заявілі стваральнікі фільму, у гэтым яны маюць і грашовы інтарэс, бо «там ня трэба нават траціцца на дэкарацыі – амэрыканскія ВВС і ісламскія камікадзэ зрабілі ўжо ўсю працу за дзяржаўны кошт».

Таксама трэба адзначыць, што браты Вачоўскі ўсё ж такі вырашылі не здымаць сэксуальную сцэну паміж Нэо і Трыніці, патлумачыўшы гэта нежаданьнем «апускаць кібэрбога на ўзровень кібэрсэксу». Трыніці ж у сваю чаргу заменіць у новай частцы загінуўшага Юду-Сайфэра: як высьветліцца, Трыніці – спэцыяльны агент Сыстэмы, засланы на «Навуходаносар» з мэтай падсадзіць траяна ў галоўны кампутар Сыёну. Засьвеціцца яна вельмі глупа, але нечакана: на ейнай левай ягадзіцы Нэо ўбачыць татуху «Ла ілаха ілаха Мухамэд расуул іла Алах акбар», зробленую пры дамапозе невядомага рэчыва. Пры аналізе высьветліцца, што дадзенае рэчыва выкарыстоўвалася толькі спэцыяльнымі падразьдзяленьнямі агентаў Матрыцы. Як ня горка будзе Нэо, а латэксную Трыніці прыдзецца аддаць у рукі сыёнаўскага сьмершу.

Ці зробіць гэты фільм рэвалюцыю у кінематографе XXI ст. – пакажа час, а зараз застаецца толькі чакаць 25 сьнежня 2002 году, бо менавіта на гэты дзень запляніравана прэм'ера «Матрыцы ІІ» – новага блокбастэру ўсіх часоў і народаў, вырашальнай бітвы паміж ісламскай Матрыцай і сыяністцкім андэграўндам.

## РэтраграАды

### Залаты шлягер

Напачатку лістапада на Магілёўшчыне фэстываліў «Залатыя шлягер». Файна! Да нас прывозілі старую Нані Брэгвадзэ і Мусьліма Магамаева са сваім сабакам. Мясцовая прэса калоціцца ў эйфарычнай ліхаманцы ня менш як месяц, а арганізатары «шлягеру» ажно да Новага Году будуць абвінавачваць адзін аднаго ў нядобрасумленнасьці. А што думаюць пра сьвята старажытнай папсы простыя людзі? З гэтай нагоды прапануем вам азнаёміцца зь невялічкім апытаньнем, праведзеным на вуліцах Магілёва.

***Марыя Цімафееўна, прафсаюзная дзяячка МПА «Хімвалакно»:***
Очань я ўважаю высокае чыстае іскуства. Жду не даждуся, када ў прафкоме бясплатныя білеты на шлягер дзяліць будуць. Саўрыменная маладзёж не панімае настаяшчай музыкі. А ў нашай сям'і любоў к старынным песьням зь дзецтва васьпітывалась. Мае радзіцелі са мной часта ў Магілёў езьдзілі на канцэрты і ціятры сматрэць. Патамушта мая мамка ў радных Чавусах тожа ўсю жызьню ў прафкоме прарабіла.

***Іван, рабочы завода імя Кірава:***
Пайшлі яны ў с*/Раку, пер*/дзелы старыя! Як былі маладыя, ніводная падла ў Магілёў ня сунулася. А цяпер яны ўжо нікому не патрэбныя, дык прыперліся! Я на іх і задарма глядзець не хачу, з прынцыпу.

***Галя, сьвінарка зь вёскі Казюлькі Асіповіцкага раёну, госьця нашага гораду:***
Наравіцца мне слухаць етыя песьні. А яшчэ больш на артыстаў глядзець. Бо чыстыя, прычэсаныя. Адзёжа на іх добрая. Як устрояцца ў касьцюм бастонавы, ці якое плацейка, дык люба глянуць. От Зыкіна красівая жэншчына, поўная. Выступае хараша. На сцэну голая не выскоквае, пэйсамі не трасе, як каторыя дуракаватыя. А на «шлягер» той мы з мужыком не паедам. Чаго ў горад зь дзірэўні лётаць, абы грошы збаёдаць? Дужа дарагія канцэрты етыя. Тэлевізар пагляджу, ды й тое самае. Лепш дзіцёнку баціні купілю, а сабе паўлітру, хоць памяць астанецца.

***Дэцл, пэтэвэшнік:***
Вапшчэ мне пофіг, што па целіку зырыць. Зато ў зрыцельным зале можна знакомую рожу ўвідзець із нашава учылішча, із раёна. А патом з этава лоха папрыкалываццца.

***Ірына, настаўніца музычнай школы:***
Зноў зарплату затрымалі. Кажуць, у бюджэце сродкаў няма. Фэстываляць на нашы грошы, с*укі!

***Раба Божая Кацярына, пэнсіянэрка:***
То іскушэніе бясоўскае. Я па гуляшчым мястам ня поўзаю. У цэркву хаджу. Госпаду малюся, сьвечкі прадаю. Душу спасаю, на хлеб насушчны зарбатваю.

***Пецька Крывая Галава, беспрацоўны з чырвона-сінім тварам:***
Я, мля... за палярным кругам быў...я, тля... палкоўнік міліцыі і прафэсар. Я такое бачыў, што вам, хля... і ня сьнілася. «Залаты шлягер»? Нешта яго, фля... не відаць даўно. Не настойка, а паскудзтва, пля... Саладасьці многа, крэпасьці ні храна!

Вось так, натхнёна, з жартамі, усьмешкамі і шчырым захапленьнем ад эстрады савецкіх часоў просты народ вітае «Залаты шлягер».

На пачатку 19 стагодзьдзя ў масавай сьвядомасьці ЗША месца сёньняшніх ісламскіх тэрарыстаў займалі піраты. Бацькі пужалі імі дзяцей, журналісты лічылі іх міжнароднымі злачынцамі, палітыкі арганізоўвалі супраць іх ваенныя экспэдыцыі. ЗША афіцыйна ўдзельнічалі мінімум у трох войнах супраць піратаў. Асабліва дакундузілі амэрыканцаў г.зв. бэрбэрскія піраты, базы якіх знаходзіліся на тэрыторыі Паўночнай Афрыкі. З самага пачатку існаваньня Злучаных Штатаў амэрыканцы плацілі штогод 80 тысяч даляраў бэрбэрскім піратам за права свабоднага праходу праз акваторыю Міжземнага мора. У 1875 піраты захапілі два караблі пад зорна-паласатым флагам. У закладнікі трапілі 21 грамадзянін ЗША. Дэй (пірацкі аўтарытэт) Алжыру патрабаваў ад Вашынгтону выкуп: па 59 000 баксаў за рыла. Між тым, за аднаго францускага закладніка Францыя плаціла толькі 2000, таму ЗША былі вельмі незадаволеныя такой дыскрымінацыяй. Па ўсёй краіне прайшла кампанія збору сродкаў, і ў 1793 за небаракаў унесьлі патрэбную суму. Праўда, калі пасярэднікі з выкупам прыехалі ў Алжыр, 11 чалавек ужо адправіліся на той сьвет. У тым жа 1793 карсары падманулі ангельскіх памежнікаў у Гібралтары, прарваліся ў Атлянтычны акіян і захапілі 11 амэрыканскіх караблёў. У палон трапіла 115 чалавек.

Кангрэсу нічога не заставалася, як у 1795 выкупіць суайчыньнікаў за кругленькую суму — 999 463 $. Часткай выкупа стаў 36-гарматны фрэгат коштам 100 000$. З тых часоў амэрыканцы рэгулярна башлялі алжырскім паханам. Адзінае, што магло суцешыць гордых янкі — тое ж рабілі ўсе эўрапейскія краіны. Аднак, у 1801 паша Трыпалі палічыў, што янкі адсьцёгваюць занадта мала, патрабаваў болей грошай. ЗША адмовіліся. Тады трыпалітанскі паша авесьціў ЗША вайну. Во былі часы!

Амэрыканцы змайстрачылі экспэдыцыю ў Міжземнае мора. Армадай кіраваў камандор Рычард Дэйл. Ягоныя караблі блякавалі Трыпалі і прымусілі пашу забраць свае словы назад. Аднак як толькі амэрыканскія фрэгаты зьніклі за гарызонтам, Трыпалітанскі бугор абвесьціў, што ён пажартаваў. Калі амэрыканцы пра гэта даведаліся, яны адправілі новую экспэдыцыю, якой кіраваў нехта Эдвард Плэбл. Ён з арабамі не цырымоніўся. 5 разоў ягоныя караблі бамбардзіравалі Трыпалі, у выніку чаго загінула маса людзей. Каб дабіць піратаў, капітан Уільям Ітон сфармаваў у Александрыі атрад, куды запісаліся прыкладна 500 авантурыстаў. Кодла ўчыніла марш-кідок у 810 км праз пустыню й захапіла горад Дэрна. Даведаўшыся пра падзеньне Дэрны, паша капітуляваў. Аднак і на гэтым гісторыя разборак зь піратамі ня скончылася. Толькі ў 1815, калі камандор Стэфан Дэмадур захапіў флагманскі карабель алжырскага дэя «Машыда» і нахабна ўвашоў у бухту Алжыру, піраты прыпынілі атакі на амэрыканскія караблі...

І вось прайшло 100 гадоў. Пра тыя пакуты амэрыканскіх закладнікаў, якіх катавалі алжырскія карсары, усе забыліся. Самі былыя нягоднікі сталі кумірамі амэрыканцаў. Галівуд зрабіў на піратах агромны бізнэс. Што там Галівуд! Цэлыя краіны Карыбскага мора існуюць за кошт эксплюатацыі пірацкага міту. Вось што піша пра індустрыю пірацтва на Кайманавых астравах вядомы італьянскі пісьменьнік Умбэрта Эка: «Мясцовы турызм заснаваны большая часткай на міталёгіі флібусьцьераў. Усё таму, што геаграфічнае разьмяшчэньне астравоў і адсутнасьць на іх людзей зрабілі іх прыгоднымі для пірацкіх базаў. Натуральна, тутэйшыя турыстычныя офісы эксплюатуюць гэты міт шляхам афармленьня мясцовых супэрмаркетаў у пірацкія дэкарацыі, што дастаўляе задавальненьне маленькім наведнікам, праводзяць пірацкія фэстывалі, г.зв. «піратэрыі». Да берагу прыстае мікрамадэль галіёну, зь якога выскокваюць людзі з чорнымі павязкамі на воку, з абардажнымі шаблямі, апранутыя ў касьцюмы сваёй эпохі, б'юцца на дуэлі і, у рэшце рэшт, танчаць вакол вогнішча пірацкія бугі-джыгі, уплятаюць рагу з чарапахі і кальмараў, багатых на пратэіны, якія выпрацоўваюцца абарыгенамі. Спэктакль прызначаны для турыстаў і іх сем'яў, і акторы (уявіце сабе, колькі чалавек занята ў індустрыі «піратэрыя» на ўсіх Кайманах!) ня маюць права нават на куфаль піва падчас выступаў. Аднак, мы ведаем, што сапраўдныя піраты былі падонкамі, людзьмі без закону і маралі, здатнымі адрэзаць вам руку, каб забраць пярсьцёнак, пакласьці яго ў мяшок і сьмеючыся кінуць руку ў мора. Закончаныя падлы, бацькі і дзеці жанчын лёгкіх паводзінаў, на якіх жудасна глядзець, брудныя, ад якіх сьмярдзіць часнаком і ромам. Аднак час лечыць усе раны, Галівуд прайшоў праз гэта. Гэтыя былыя адкіды сталі героямі легенд, і зараз іх падаюць турыстам як форму захапляючага прыгодніцкага жыцьця». (Umberto Eco, Comment voyager avec un saumon, P. 66. Editions Grasset et Fasquelle, Paris 1997).

Ці не чакае ў будучым такі ж лёс і ісламскіх экстрэмістаў? Сёньняшнія талібы, якіх у СМІ трактуюць як канчаных недачалавекаў, стануць героямі галівудзкіх баевікоў. Прозьвішча Ўсамы бэн Ладэна і мулы Амара будуць выклікаць тыя ж асацыяцыі, што сёньня навяваюць імёны Генры Моргана, Фрэнсыса Дрэйка і Джона Сыльвэра. Афганістан, як сёньняшнія Кайманавы астравы, пачне эксплюатаваць тэму ісламскага фундамэнталізму ў якасьці турысцкай фішкі. На ўскрайку Кабулу кампаніяй Дыснэя будзе пабудаваны грандыёзны парк адпачынку, галоўнымі пэрсанажамі якога стануць талібы, ісламскія фанатыкі і, нарэшце, любімец дзятвы — Усамчык.

WELCOME TO TALIBANLAND!